*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

**№452 • Сакавік 1998 г.**
Год выд. 48

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

# 25 САКАВІКА — ДЗЕНЬ ВОЛІ

## 80 ГАДОЎ ТАМУ БЫЛА АДРОДЖАНАЯ

# БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ

## ні спыніць ні разьбіць ні стрымаць

Рада БНР, БАЗА й рэдакцыя газэты «Беларус» віншуюць усіх суродзічаў у сьвеце з гэтым Вялікім Днём!

## ГАНЕБНАЯ РАСПРАВА

### ЯК АДБЫВАЎСЯ СУД НАД В. ЛАБКОВІЧАМ І А. ШЫДЛОЎСКІМ

***Больш за паўгода дэмакратычная грамадзкасьць з напругаю сачыла за лёсам маладых вязьняў сумленьня В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага й В. Кабанчука.***

***18 лютага над Лабковічам і Шыдлоўскім адбыўся суд. Ён прызнаў хлопцаў вінаватымі ў напісаньні антыпрэзыдэнцкіх лёзунгаў і асудзіў кожнага на 1,5 гады калёніі строгага рэжыму. В. Лабковічу з прычыны непаўналецьця выкананьне прысуду адкладзена на 2 гады. (Пра рэакцыю Дзяржэдэпартамэнту ЗША чытайце ў аглядзе амэрыканскага друку на с. 3.)***

Судзілішча над юнакамі адбылося ў Менскім абласным судзе.

У акружэньні байцоў ОМОНу ў масках, іх у кайданах прывезьлі ў будынак суда й пасадзілі ў жалезную клетку, якую сьцярог службовы сабака й чатыры ўзброеныя омонаўцы. Судзьдзя Лаўроў (з паходжаньня расеец, што ён асабліва падкрэсьліваў) усяляк зьдзекаваўся зь беларускай мовы, вязьняў і прысутных у зале.

Звонку будынак суду быў акружаны ОМОНам. У залю суду прапусьцілі ўсяго 40 чалавек і толькі па пашпартох. Чалавек з трыста засталося стаяць перад будынкам. ОМОН аб'явіў іх усіх «незаконным пікетам». Людзей сталі хапаць. Гэтак, схапілі адстаўнога афіцэра сп. Уладзімера Юхо, які спакойна стаяў на ганку. Яму зашчымілі рукі ў дзьверкі міліцэйскай машыны. У шпіталі, куды сп. Юхо адвезла хуткая мэдыцынская дапамога, яму зрабілі тэрміновую апэрацыю рукі й наклалі швы. Тым ня менш, са шпіталя ОМОН забраў яго ў міліцыю. Там на сп. Юхо склалі пратакол за «ўдзел у пікеце».

У міліцэйскім пастарунку на заўвагу адваката Н. Дударавай міліцыянт заявіў, што будзе страляць.

Пасьля ўсяго Ул. Юхо зьвярнуўся ў пракуратуру са скаргай на дзеяньні міліцыі.

Тады-ж схапілі траіх падлеткаў, якія ішлі па вуліцы, заклаўшы рукі за галаву. 15-гадовых Зьм. Касьяровіча, М. Кашынскага й Д. Мілаванава зьбіраюцца судзіць. «Налицо все признаки несанкционированного шествия», — растлумачыў міліцэйскі начальнік.

Пасьля вынясеньня прысуду, адпушчанага з-пад варты В. Лабковіча на

(Працяг на с. 3)

## ЗАПАЛІМ СЬВЕЧКУ ПАМЯЦІ Й НАДЗЕІ!

***Зварот да ўсіх беларусаў сьвету***

Суродзічы! Доўгі, пакутлівы шлях да абвешчаньня 25 сакавіка 1918 году незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адзначаны магіламі лепшых сыноў Беларусі. Іх сьветлая памяць у кожным беларускім сэрцы спалучаецца з надзеяй на лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны.

Заклікаем усіх, каму дарагія ідэалы незалежнай Беларусі, запаліць увечары 25 сакавіка 1998 году ў вокнах сваіх дамоў сьвечку й выставіць бел-чырвона-белы сьцяжок — як сымболь памяці, змаганьня й веры.

**Рада БНР**

## КУДЫ ДЗЕЛІСЯ ЛЕКІ НА $1,300,000?

*Рэдакцыя атрымала інфармацыю з Чыкага пра жудасныя камплікацыі, якія беларускія ўлады ствараюць замежным дабрачынным арганізацыям.*

Лекі й мэдычнае абсталяваньне коштам больш як 1 млн. 300 тыс. даляраў, сабраныя Чыкагскім Музэем Архітэктуры й Дызайну ў якасьці гуманітарнай дапамогі для жыхароў Беларусі, што пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі, былі беспадстаўна затрыманыя і зьніклі на тэрыторыі Беларусі. Дапамога накіроўвалася, галоўным чынам, у бальніцы Гомля ды Хвойнікаў.

Сытуацыя надзвычай непрыемная, бо зьнікла дапамога, якая вельмі патрэбная беларускім шпіталям. Дырэктар Чыкагскага Музэю сп. Х. Наркевіч-Лэйн, які раней быў на Беларусі, сьведчыць, што шмат якія шпіталі ў чарнобыльскай зоне не адпавядаюць сусьветным стандартам. Яны не забясьпечаныя падставовымі рэчамі: асьпірынам, ватай, сьпіртам. У некаторых больніцах ужо па два гады ня бачылі гумовых пальчатак. Хірургічныя працэдуры праводзяцца без анастэзіі.

Нават праз 12 год пасьля аварыі на Беларусі рэзка павялічваецца колькасьць захворваньняў, зьвязаных з радыяактыўным апраменьваньнем (лейкемія, рак косткі), а колькасьць захворваньняў ракам шчытападобнай залозы ў 485 разоў большая за звычайны ўзровень. У такіх умовах недахоп лекаў і адсутнасьць мэдычнага абсталяваньня для дыягностыкі і лячэньня набываюць памеры нацыянальнай катастрофы.

«Гэта ня звыклы крадзёж, — кажа сп. Наркевіч-Лэйн, камэнтуючы зьнікненьне грузу з Чыкага. — Я ўпэўнены, што да зьнікненьня лекаў маюць непасрэднае дачыненьне асобы на ўзроўні ўраду. Гэта найгрубейшае парушэньне правоў чалавека — скрасьці гуманітарную дапамогу, якая прызначалася для бедных і хворых. Гэта найцяжэйшае маральнае злачынства су-

(Працяг на с. 2)

## «ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭПРЭСІІ Ў БЕЛАРУСІ Ў XX СТ.»

Канфэрэнцыя з такой назваю прайшла ў Менску 27—28 лютага. Адкрыў канфэрэнцыю пісьменьнік Васіль Быкаў. Удзельнікі зь Беларусі, Польшчы, Нямеччыны, Расеі падкрэсьлілі шматлікія рысы падабенства паміж фашысцкім, бальшавіцкім ды лукашэнкаўскім рэжымамі.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## З АКАДЭМІЧНАГА ЖЫЦЬЦЯ

*ПОЛЬШЧА*

### НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПЛЯЦОЎКА

26 лютага ў Беластоцкім Унівэрсытэце адбылося ўрачыстае адкрыцьцё катэдры беларускай культуры. Беластоцкі Унівэрсытэт — былая філія Варшаўскага Унівэрсытэту, якая з 1 кастрычніка 1997 г. атрымала статус самастойнай навучальнай установы.

Кірус катэдрай былы пасол Польшчы ў Беларусі праф. Эльжбета Смулкова. Спэцыялістамі катэдры будуць выкладацца розныя дысцыпліны, якія асьвятляюць культуру беларусаў у кантэксьце культур суседніх народаў, праблемы нацыянальнай сьвядомасьці асобы ў шматмоўным асяродзьдзі, а таксама пытаньні ўзаемаўплыву культур памежжа.

*ФРАНЦЫЯ*

### АБАРОНЕНЫ ДАКТАРАТ З ГЕАГРАФІІ БЕЛАРУСІ

31 студзеня ў сусьветна вядомым парыскім унівэрсытэце La Sorbonne прайшла абарона доктарскай працы на тэму «Беларусь: Гістарычная й культурная геаграфія абшару пад зьнешнім уплывам».

Парыскія беларусы пазнаёміліся з аўтарам працы — маладым француcкім навукоўцам Жанам Рышарам — тры гады таму. Тады, пасьля свайго першага падарожжа па Беларусі, Ж. Рышар наладзіў канфэрэнцыю па выніках паездкі ў парыскім Інстытуце Геаграфіі.

Доктарская дысэртацыя маладога географа сталася вынікам ягонага бескарысьлівага энтузіязму й шчырага зацікаўленьня Беларусьсю, а невялікая беларуская грамада Парыжу па магчымасьці садзейнічала яго дасьледніцкай працы.

**М.Н.**

### РЫХТУЕЦЦА ДЫСЭРТАЦЫЯ З АРХІВІСТЫКІ

Сёлета ў чэрвені ў Сарбонскім Унівэрсытэце мяркуецца абарона дактарату па тэме «Дакумэнтальныя крыніцы па гісторыі зносінаў паміж Францыяй і Вялікім Княствам Літоўскім у XVI – пачатку XIX стагодзьдзя». Аўтар працы — Ігар Лялькоў, леташні выпускнік аддзяленьня архівазнаўства гістарычнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску, — зьяўляецца стыпэндыятам францускага ўраду.

## КУДЫ ДЗЕЛІСЯ ЛЕКІ...

(Працяг з с. 2)

праць чалавечнасьці — злачыннае выкарыстаньне хворых і паміраючых дзеля ўласнага ўзбагачэньня. Беларускі прэзыдэнт Лукашэнка павінен несьці асабістую адказнасьць».

Нажаль, выпадак з дабрачынным грузам ад Чыкагскага музэю — звыклая зьява для сучаснай Беларусі. З падобнай сытуацыяй сутыкнулася, напрыклад, і CitiHope International, арганізацыя, якая таксама займалася гуманітарнай дапамогай Беларусі. Беларускі ўрад сканфіскаваў US $349,000, якія былі на іхным банкаўскім рахунку. Сумны лёс напаткаў і Фонд Сораса ў Беларусі, які выдаткаваў больш за US $34,000,000 на дапамогу беларускім школам і шпіталям, і быў зачынены беларускімі ўладамі.

«Цяпер, — дадае сп. Наркевіч-Лэйн, — у Беларусі няма прыватных дабрачынных групаў, што распаўсюджваюць гуманітарную дапамогу. Іх дзейнасьць спыненая беларускім урадам».

*Ад рэдакцыі:* Сп. Наркевіч-Лэйн зьяўляецца нашчадкам Наркевічаў-Ёдкаў і Радзівілаў зь Міру, Нясьвіжу й Узды.

# ХРОНІКА

## ЧЫКАГА: КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ

Летась мінула 20 год, як Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага пачаў браць удзел у Калядных Фэстывалях, ладжаных Музэем Навукі ды Індустрыі ў Чыкага.

Гэтым разам у імпрэзе ўдзельнічала каля 45 этнічных групаў. Беларуская ялінка была ўдэкараваная 8 лістапада й прастаяла да 5 студзеня. Арнамэнты з рознакаляровай саломкі суседзілі з мноствам разнастайных падарункавых скрыначак ды куфэрчыкаў. З усіх бакоў ялінка аздаблялася эфэктнай падсьветкай.

Талаку руплівцаў, што паклапаціліся пра ўпрыгожаньне ялінкі, склалі спадарыні Ірэна Пануцэвіч, Людвіка Бяленіс, Люба Кавалёнак, Вера Рамук, спадары Нікодэм Жызьнеўскі й Том Кучура.

Каляднаю парою Музэй Навукі ды Індустрыі выдаў кухарскую кнігу *A season of Celebrating. A cookbook. From the Museum Science and Industry's "Christmas around the World" and "Holidays of light" Festivals*, дзе падаюцца рэцэпты страваў нацыянальных кухань тых этнічных групаў, што жывуць у Чыкага.

Летась па просьбе адміністрацыі Музэю спн. Вера Рамук сабрала 15 рэцэптаў беларускае кухні ад беларусак Чыкага: Раісы Браткіў, Анны Брушкевіч, Люсі Яламаў, Эльжбеты Куляс, Марты Кучуры, Софіі Латушкінай, Зоі Нікіфаровіч, Валі Ваксяліс і Ліліі Кантаровіч-Кляйнэр.

Яшчэ адна кніжная навінка перадкаляднага часу — *For the lore of Community: Northwest Illinois*. Яе аўтары — др Роланд Талівэр, зяць сп-ва Рамукоў, і др Стывэн Спайрысан — актыўна ўдзельнічаюць у беларускім нацыянальным жыцьці.

**Др Вітаўт Рамук**

## ГАЙЛЕНД ПАРК, Н. ДЖ.



*Калядная куцьця 6 студзеня*

## ПАД СЬЦЯГАМ БНР

**50 год таму назад**, у лістападзе 1948 году, у Таронта **заснаваная была першая ў Канадзе беларуская нацыянальная арганізацыя — Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе (ЗБК)**

Задума стварэньня беларускай арганізацыі, якраз у 30-я ўгодкі БНР, як і ўся ейная паўвяковая дзейнасьць, базаваліся на ідэі дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Ідэі, якая ад 1918 году сталася асновай усяго беларускага нацыянальнага руху.

Сёлета, у 80-я ўгодкі абвешчаньня Актам 25 Сакавіка 1918 году дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, вітаем Галоўную Ўправу, Аддзелы й сяброў Згуртаваньня Беларусаў Канады — сябры Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады — з залатым юбілеем!

Жадаем Вам, працаўнікі, добрага здароўя, духовых сілаў, вытрываласьці й багатых плёнаў у працы на карысьць нашай беларускай нацыянальна-вызвольнай справы.

Няхай жыве й разьвіваецца пад знакам бел-чырвона-белага сьцягу БНР Згуртаваньне Беларусаў Канады!

**Выканаўчы Камітэт**
**Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады**



У першы веснавы дзень у бруклінскай царкве сьв. Кірылы Тураўскага павянчаліся Людміла Кашына й Юрась Зэкаў — першыя прадстаўнікі новай хвалі эміграцыі, што пазнаёміліся й узялі шлюб у Амэрыцы.

Шчаснае вам долі!

*Здымак Алеся Крытаповіча*

# АМЭРЫКАНСКІ ДРУК ПРА БЕЛАРУСЬ



WINTER GAMES

Belarus president angry

THE WALL STREET JOURNAL MONDAY, FEBRUARY 23, 1998

INTERNATIONAL

Is Belarussian Dictator's Growth for Real?

'Lukanomics' and Easy Credit Help Nation to Outpace Russia

Two Youths In Belarus Pay Dearly For Graffiti

By JANE PERLEZ

MINSK, Belarus, Feb. 27 — Gaunt and pale, with his prison-shaven head just beginning to sprout hair, 16-year-old Vadim Labkovich seemed barely able to believe the ... of being back home.

Belarus Takes Over the Role Of Cinderella

## Два хлопцы ў Беларусі дорага заплацілі за *graffiti*.

Артыкул пад такой назвай зьявіўся 1 сакавіка ў *New York Times*. Рэагуючы на вынікі суда, што адбыўся ў Беларусі над В. Лабковічам і А. Шыдлоўскім, газэта зазначае: «Яны былі засуджаныя за тое, што ў большасьці краінаў сьвету ўспрымалася-б як падлеткавае свавольства... Але ў аўтарытарнай Беларусі іхныя дзеяньні былі расцэненыя як сур'ёзнае крымінальнае злачынства».

Прадстаўнік Дзяржэпартамэнту ЗША расцаніў гэтую падзею як «напамінак пра самы жорсткі перасьлед савецкай эпохі». «Да дзяцей не павінны ставіцца як да звычайных крымінальнікаў», — заяўляе Дзярждэпартамэнт, заклікаючы беларускія ўлады вызваліць А. Шыдлоўскага.

---

23 лютага газэта *The Wall Street Journal* зьмясьціла артыкул **«Ці сапраўдны прырост, пра які гаворыць беларускі дыктатар?»** Матар'ял мае падназву «Беларусь апярэджвае Расею, дзякуючы "луканоміцы" й лёгкім крэдытам». І назва, і зьмест артыкулу выклікаюць супярэчлівыя ўражаньні.

З аднаго боку, аўтар, інфармуючы чытачоў пра эканамічную сытуацыю на Беларусі, выкарыстоўвае афіцыйныя дадзеныя беларускіх уладаў, зь якіх выглядае, што Беларусь зараз знаходзіцца на нябывалым уздыме. Гаворка ідзе пра 10% росту валавага ўнутранага прадукту на фоне 0,4% эканамічнага ўздыму ў Расеі й 3% падзеньня на Ўкраіне. У якасьці аргумэнтаў чытачы атрымліваюць згадку пра чыстыя вуліцы ў Менску, поўныя тавараў крамы й своечасовую выплату заробку, які ў сярэднім складае каля 67 даляраў на месяц.

З другога боку, аўтар вельмі скептычны што да сродкаў, якімі Лукашэнка дабіваецца «эканамічнага росквіту» сваёй краіны. Гэтак адзначаецца, што «беларускі дыктатар захапіў у свае рукі рычагі кантролю над эканомікай. Пачынаючы з 1995 году, беларускі ўрад ізноў кантралюе 5 найбуйнейшых банкаў краіны. Ад слабых урадавых інстытуцыяў улада перайшла да прэзыдэнта. Адміністрацыя прэзыдэнта фінансуецца з уласнага, нідзе не публікаванага бюджэту. Апроч іншых шматлікіх функцыяў, яна бярэ на сябе яшчэ й вызначэньне валютнага курсу, і рэгуляваньне гандлёвай палітыкі». І далей: «Выкарыстоўваючы дзяржаўныя банкі, Лукашэнка штучна вывеў рост крэдыту, бо зрабіў узровень працэнтаў па крэдытах значна ніжэйшым за ўзровень інфляцыі». Гэта й дало падставу сьцьвярджаць, што нібыта адбыўся рост унутранага прадукту.

Газэта зазначае: «Паколькі "луканоміка" — гэта ня што іншае, як сумесь старамоднага цэнтралізаванага плянаваньня ды некалькіх мэханізмаў сучаснага рынку, яна можа прывесьці да такога-ж хранічнага дэфіцыту й прыхаванай інфляцыі, якія ў свой час прывялі да распаду СССР».

---

Газэта *Newsday* (найбуйнейшы штодзённік Лонг Айленду) 13 лютага апублікавала нататку **«Беларусь пераймае ролю папялушкі»**. Газэта называе прыезд беларускай каманды па гокеі на Алімпійскія Гульні ў Нагана сэнсацыйным: яшчэ ніколі беларускія гокеісты ня бралі ўдзелу ў фінальнай стадыі алімпійскіх спаборніцтваў.

Нагадаем, што беларускія алімпійцы заваявалі ў Нагана два бронзавыя мэдалі: у біятлёне дамогся посьпеху Аляксей Айдараў і ў фрыстайле — Зьміцер Дашчынскі.

---

Вызначыўся на Алімпійскіх Гульнях і прэзыдэнт Лукашэнка. Паводле інфармацыі агенцтва *Associated Press*, распаўсюджанай 20 лютага, беларускі прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка пабяцаў звольніць усіх трэнэраў ды чыноўнікаў ад спорту, чые выхаванцы «не апраўдалі нашых спадзяваньняў» на Алімпійскіх Гульнях.

Лукашэнка, які ўзначальвае Беларускі Дзяржаўны Спартовы Камітэт, сказаў, што ён паехаў у Нагана, у прыватнасьці, каб паглядзець, якія віды спорту трэба разьвіваць у Беларусі й «якім з гэтых відаў спорту трэба надаць статус дзяржаўных».

Крыху раней Лукашэнка публічна абвінаваціў арганізатараў гульняў у «мафіёзнай несправядлівасьці» й кепскім стаўленьні да беларускіх спартоўцаў, што выявілася ў рашэньні спыніць 10-кілямэтровыя гонкі біятляністаў з прычыны кепскага надвор'я.

Ён сьцьвярджаў: арганізатары прынялі гэтае рашэньне, калі пабачылі, што спартоўцы зь Беларусі, Расеі й Латвіі выступаюць лепш за гаспадароў спаборніцтваў.

---

5 сакавіка *Los Angeles Times* у рубрыцы «Асяродзьдзе» надрукавала артыкул **«Губэрнатарскі падарунак беларускаму прэзыдэнту — шкура ўсурыйскага тыгра»**.

А. Наздраценка — губэрнатар Прыморскага Краю Расеі — падарыў на мінулым тыдні Лукашэнку (які вяртаўся з Алімпійскіх Гульняў у Нагане праз Уладзівасток) шкуру ўсурыйскага тыгра. Камэнтуючы падарунак, аўтар артыкулу зазначае, што гэты біялягічны від амаль зьнік — у жывой прыродзе засталося ўсяго 400 тыграў, а таксама цытуе кіраўніка фэдэральнай праграмы па ахове тыграў у рэгіёне, які вельмі крытычна ацаніў дзеяньні прыморскага губэрнатара, кажучы, што ў іншай краіне губэрнатар за падобныя дзеяньні апынуўся-б за кратамі.

Газэта ўзгадвае Лукашэнку як вядомага прыхільніка Сталіна й Гітлера, які зачыняе газэты й садзіць у турмы сваіх апанэнтаў і журналістаў.

Цікава, што адміністрацыя прэзыдэнта Беларусі ніяк не пракамэнтавала падарунак.

## БЕЛАРУСКІЯ ФІЛЬМЫ Ў НЬЮ ЁРКУ



## ГАНЕБНАЯ РАСПРАВА

(Працяг з с. 1)

вуліцы акружылі журналісты. Да іх у той-жа момант падбеглі міліцыянты з амонаўцамі й закрычалі, каб разыходзіліся й не арганізоўвалі «несанкционированного митинга». Журналіст В. Шчукін (дэпутат парлямэнту 13 скліканьня) адмовіўся «разыходзіцца». Яго адразу-ж пачалі біць на вачох соцень людзей, што былі на вуліцы, а затым схапілі й кінулі ў закратаваную машыну.

Пра тое, што прысуд, вынесены Вадзіму Лабковічу й Аляксею Шыдлоўскаму, ня сумерны зробленаму імі фармальна нязначнаму парушэньню, — казаць няма сэнсу. Тым больш, што зь іхных бацькоў улады не пасаромеліся ўзяць штраф па 5 мільёнаў рублёў (іх шматмесячны заробак).

5 сакавіка Лукашэнка цынічна заявіў, што паўтара гады турмы — няшмат, а калі хлопцы хочуць, каб ён іх выпусьціў, — няхай папросяць.

**Мар'ян Ванькевіч**

## «БЕЛАРУСКАЯ МІНУЎШЧЫНА» ЗАБАРОНЕНАЯ

Перастаў выходзіць менскі гістарычны часапіс «Беларуская Мінуўшчына». Улады не працягнулі дзеяньня ліцэнзіі на выданьне пэрыёдыка, што фактычна азначае яго забарону.

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Апошнім часам мы, рэдакцыйная калегія газэты «Беларус», адчулі ажыўленьне ўвагі да нашага выданьня: узбагацілася рэдакцыйная пошта, шчадрэйшымі сталі ахвяраваньні.

Гэта дапамагае нам рабіць газэту больш зьмястоўнай, інфармацыйна насычанай, а нашаму выданьню — стаць сапраўднай трыбунай беларускага замежжа.

Мы шчыра дзякуем за тое, што вы застаяцеся вернымі нашай газэце — чытаеце «Беларуса», пішаце да нас, распаўсюджваеце газэту.

Мы робім захады, каб у найбліжэйшы час «Беларус» можна было чытаць і на Інтэрнэце.

Чакаем ад вас лістоў і электронных пасланьняў (e-mail: lyurevich@nypl.org).

# ДАКЛАД ДЗЯРЖАЎНАГА ДЭПАРТАМЭНТУ ЗША АБ ПРАВОХ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ за 1997 год

Дзяржаўны лад Беларусі характарызуецца тым, што амаль усе паўнамоцтвы ў дзяржаве належаць прэзыдэнту. З моманту абраньня на прэзыдэнта ў чэрвені 1994 году А. Лукашэнка паступова сканцэнтраваў у сваіх руках практычна ўсю ўладу ў краіне. У лістападзе 1996 году ён зладзіў рэфэрэндум з мэтаю ўнесьці папраўкі ў Канстытуцыю 1994 году, якія павялічвалі яго паўнамоцтвы й падаўжалі тэрмін яго прэзыдэнцтва.

Прэзыдэнт праігнараваў рашэньне Канстытуцыйнага Суда, паводле якога Канстытуцыя ня можа зьмяняцца праз рэфэрэндум, і абвесьціў вынікі рэфэрэндуму праўнымі. У выніку дзеяньняў прэзыдэнта ўрад і палітычная сыстэма краіны грунтуецца на рэдакцыі канстытуцыі, прынятай у лістападзе 1996 году неканстытуцыйным шляхам.

Большая частка сусьветнае супольнасьці ня прызнала вынікаў рэфэрэндуму, бо працэдура прыняцьця рашэньня парушыла падставовыя прынцыпы дэмакратыі.

Большая частка сусьветнае супольнасьці таксама не прызнае легітымнасьці Канстытуцыі 1996 году й новых органаў заканадаўчае ўлады.

Нягледзячы на тое, што Канстытуцыяй 1996 году прадугледжвацца падзел улады на выканаўчую, заканадаўчую й судовую галіны, яна не забясьпечвае адпаведнае сыстэмы стрымліваньня.

Спасылаючыся на вынікі Рэфэрэндуму, паводле якога быў утвораны дзьвюхпалатны парлямэнт, прэзыдэнт Лукашэнка змусіў некаторых заканадаўцаў пакінуць легітымны парлямэнт, распушчаны ім у лістападзе 1996 году. Цяперашні заканадаўчы орган ня быў абраны простым галасаваньнем, а склаўся з рэштак папярэдняга парлямэнту, дэпутатаў мясцовых органаў, а таксама прызначаных прэзыдэнтам асобаў.

КГБ і Міністэрства ўнутраных справаў, падпарадкаваныя прэзыдэнту, заставаліся асноўнымі органамі ажыцьцяўленьня закону й выкананьня паліцыйных функцыяў. Пад непасрэдным кантролем Лукашэнкі Служба Аховы прэзыдэнта, пачаткова створаная для аховы дзяржаўных службоўцаў, працягвала дзейнічаць супраць палітычных супраціўнікаў прэзыдэнта без найменшага кантролю з боку судовай і заканадаўчай уладаў. Супрацоўнікі органаў бясьпекі ўчынілі шматлікія парушэньні правоў чалавека.

Сілы бясьпекі рэгулярна зьбіваюць затрыманых і зьняволеных. Дзедаўшчына ў войску саслабла, але ня зьнікла цалкам. Умовы ўтрыманьня ў пэнітэнцыярных установах ня могуць быць прызнаныя нармальнымі. Спэцслужбы самачынна арыштоўваюць грамадзянаў.

Органы дзяржаўнае бясьпекі парушалі правы грамадзянаў на прыватнае жыцьцё й пільна сачылі за дзейнасьцю актывістаў апазыцыі ды іншых слаёў насельніцтва. Абмежаваньні свабоды слова й друку, права на сходы і аб'яднаньні сталі больш жорсткія. Міністэрства Ўнутраных Справаў выкарыстоўвала сілу для разгону палітычных дэманстрацыяў і праводзіла масавыя арышты.

Канстытуцыяй 1996 г. гарантуецца недатыкальнасьць асобы, забараняюцца катаваньні, жорсткія, бязьлітасныя й прыніжальныя для чалавечай годнасьці пакараньні. Але міліцыя ды турэмная адміністрацыя рэгулярна зьбіваюць арыштаваных. Назіральнікі за захаваньнем правоў чалавека маюць пэўную інфармацыю пра тое, што сьледчыя дамагаюцца прызнаньня ў зьняволеных, выкарыстоўваючы сродкі фізычнага ды псыхалягічнага ціску. Нягледзячы на незаконнасьць іхных дзеяньняў, урад рэдка карае (калі ўвогуле карае) асобаў, якія ўчыняюць падобныя парушэньні.

На канец году сотні людзей, якія былі мірнымі ўдзельнікамі антыўрадавых дэманстрацыяў, зазналі затрыманьне па палітычных матывах.

Супрацоўнікі міліцыі затрымлівалі й журналістаў. Увесну 1997 г. асобы ў цывільным, якія аказаліся супрацоўнікамі органаў дзяржаўнае бясьпекі, затрымвалі ўдзельнікаў антыўрадавых дэманстрацыяў і правакавалі розныя інцыдэнты, якія сканчаліся сутыкненьнямі зь сіламі бясьпекі. Пасьля гэтага сілы бясьпекі атрымлівалі сыгналы, што ўказвалі на дэманстрантаў, якіх трэба было арыштаваць дома.

Часам органы бясьпекі прэвэнтыўна арыштоўвалі арганізатараў і грамадзянаў, якія разглядаліся як патэнцыйныя ўдзельнікі дэманстрацыяў, — яшчэ да пачатку дэманстрацыяў, нават тых, што былі дазволеныя ўладамі.

Пасьля дэманстрацыяў шмат каму з затрыманых не давалі магчымасьці зьвязацца са зьнешнім сьветам, нават тады, калі затрыманымі аказваліся непаўналетнія.

Канстытуцыяй абвешчаны прынцып незалежнасьці судовае ўлады, але ў сапраўднасьці судовая сыстэма несамастойная й у большасьці выпадкаў ня здольная кантраляваць выканаўчую ўладу. У 1995 г. Вярхоўны Савет прыняў шэраг заканадаўчых актаў, якія падтрымвалі незалежнасьць судовае сыстэмы, аднак гэтыя рэформы ня былі рэалізаваныя.

Пасьля рэфэрэндуму 1996 г. судовая ўлада стала яшчэ больш падпарадкаваная выканаўчай, бо прэзыдэнт атрымаў права прызначаць 6 з 12 судзьдзяў Канстытуцыйнага Суда, у тым ліку старшыню. Паводле Канстытуцыі 1996 г. прэзыдэнт мае права прызначаць і звальняць судзьдзяў усіх адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак, а таксама вайсковых судзьдзяў.

Суды над затрыманымі ў часе вясновых антыўрадавых дэманстрацыяў ішлі канвэерам. Абвінавачаныя ня мелі права на абарону, на выстаўленьне доказаў і запрашэньне сьведкаў.

Сачэньне за кватэрамі, праслухоўваньне тэлефонаў ня зьменшылася. Ёсьць сьведчаньні таго, што КГБ бяз ордэраў чыніць вобшукі, пэрлюструе карэспандэнцыю.

Над дзейнасьцю й бюджэтам Службы Аховы прэзыдэнта ня існуе ні заканадаўчага, ні судовага нагляду.

Улады не хаваюць, што спэцслужбамі ажыцьцяўляецца віжаваньне за апанэнтамі Лукашэнкі. Вядома, што міліцэйскімі пастамі, якія ахоўваюць іншаземныя амбасады, фіксуюцца візыты лідэраў палітычнае апазыцыі.

Судзячы па ўсім, аб'ектамі сачэньня зьяўляюцца нават дзяржаўныя службоўцы.

Канстытуцыяй гарантуецца свабода слова, атрыманьня й захаваньня інфармацыі, аднак у сапраўднасьці ўлады абмяжоўваюць гэтыя правы.

Нягледзячы на тое, што Канстытуцыяй забараняецца манаполія на сродкі масавай інфармацыі (мэдыі), улады працягваюць жорстка абмяжоўваць права на свабоду слова, амаль манапалізаваўшы сродкі вытворчасьці ў паліграфіі, радыё ды тэлебачаньні. Журналістам, крытычна настроеным да рэжыму, адмаўляюць у атрыманьні акрэдытацыі. Уладныя структуры стасуюць эканамічны ціск на незалежныя мэдыі, змушаючы рэклямадаўцаў адмовіцца ад рэклямы. Супрацоўнікам дзяржаўных прадпрыемстваў не рэкамэндуецца выпісваць незалежныя выданьні.

Працягваецца закрыцьцё школ, у якіх выкладаньне вядзецца па-беларуску.

У сакавіку 1997 г. Лукашэнка выдаў дэкрэт, якім забараняюцца незарэгістраваныя сьцягі ды сымбалі, а таксама плякаты, што ўтрымваюць пагрозы дзяржаўнаму ладу. Суды накладалі кары ў памеры ад $800 да $1000.

*Друкуецца скарочана*

## ПРАВА НА ВОЛЮ

## The Right of Freedom

Пад такою назвай у Менску пачаў выходзіць бюлетэнь Камітэту ў абарону правоў чалавека ў Беларусі «Вясна–96». На сёньня мы атрымалі два нумары за студзень у двух моўных варыянтах — беларускім і ангельскім. Апроч інфармацыі пра злачынствы лукашэнкаўскага рэжыму, тут зьмяшчаюцца аналітычныя артыкулы, рэпартажы, сьвежыя палітычныя анэкдоты-показкі. Выключна аздабляе старонкі выданьня графіка мастака А. Карповіча.

Беларускі варыянт друкуецца тарашкевіцай. Аднак у ангельскім варыянце беларускія імёны й назвы падаюцца не беларускай лацінкай, а сумесьсю транскрыпцыі з трансьлітэрацыяй, што не на карысьць выданьню.

Рэдагуе бюлетэнь А. Бяляцкі, адзін зь лідэраў БНФ. Адрас для допісаў: Менск, а/с 88, 220007 BELARUS.

## На сьвяткаваньне 80-ых угодкаў Дня Волі

прапануюцца на продаж

**МАРКІ БНР**


1


2


3



4



5

*Гэтыя маркі былі надрукаваныя ў Мюнхэне ў 1949—1950 гг. стараньнямі Ўладзімера Шыманца й Віталя Кажана. У камплект уваходзіць 11 марак.*

*1 — сіняга колеру, 2 — памаранчавага й сіняга колераў, 3 — чырвонага, зялёнага й бэзавага колераў, 4 — чырвонага, зялёнага й бэзавага колераў, 5 — чырвонага й бэзавага колераў. Кошт камплекту $20.*

*Набыцьцё марак Беларускай Народнай Рэспублікі — дзейсная фінансавая дапамога Радзе БНР.*

## НЯХАЙ БУДЗЕ СПАКОЙ!

З Адэляйды (Паўднёвная Аўстралія) даходзяць да нас весткі, што ў парафіі сьвятых Пятра й Паўла, у якой ад самага пачатку панаваў спакой і згода, пачаліся непаразуменьні.

Рэч у тым, што ў 2000-м годзе ў Аўстраліі адбудуцца Алімпійскія Гульні й на стадыёне ў Адэляйдзе, непадалёк ад царквы сьвятых Пятра й Паўла, будуць адбывацца футбольныя спаборніцтвы.

Арганізатары Алімпіяды запэўніваюць вернікаў-беларусаў, што царкве нічога не пагражае й гарантуецца поўная бясьпека. Аднак, нягледзячы на гэтыя запэўніваньні, у парафіі стала неспакойна.

Настаяцель парафіі а. Міхась Бурнос пры падтрымцы Мітрапаліта Ізяслава выказваецца за продаж царквы. Але зь ягонымі намерамі ня згодны шмат хто з парафіянаў. Апошнія ўважаюць, што ўдзельнікі ды госьці Алімпіяды, шматлікія турысты з усяго сьвету маглі-б пазнаёміцца зь беларускаю царквою, а праз гэта — даведацца пра Беларусь і беларусаў.

Вельмі не хацелася-б, каб пры вырашэньні датклівых царкоўных праблемаў верх бралі эмоцыі, а не цьвярозы розум і добрая воля. Таму рашэньне наконт продажу царквы, на маю думку, павінна прымацца толькі пры поўнай згодзе парафіянаў.

Агульная беларуская справа вымагае жаданьня паразумецца!

**М.А.**

**ПОШТА**

# Крыж Ярылаў ці Патрыяршы?

За апошняе дзесяцігодзьдзе зьявілася шмат артыкулаў, прысьвечаных гербу «Пагоня», асабліва калі «Пагоня» стала дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь. Нажаль, амаль усе аўтары пераказваюць канцэпцыю Тамаша Грыба, апублікаваную ў часапісе «Іскры Скарыны» (Прага, 1935, № 5). Паколькі Т. Грыб быў сацыялістам, хрысьціянская сымболіка пярэчыла ягонаму партыйнаму пераконаньню, таму ён зьвярнуўся да аўтараў, якія займаліся вывучэньнем міталёгіі. Т. Грыб атаесаміў рыцара гербу «Пагоня» з паганскім богам Ярылам, а крыж на шчыце назваў крыжом Ярылы. Ягоную канцэпцыю вершніка Ярылы й Ярылавага крыжа падхапілі сацыялісты й камуністы Заходняе Беларусі. У час вайны канцэпцыя Ярылавага крыжа, адаптаваная беларускім актывам, трапіла ў Заходнюю Эўропу, Амэрыку, Аўстралію. На І Зьезьдзе Беларусаў Сьвету ў Менску ў 1993 г. выступілі дэлегаты з Аўстраліі з патрабаваньнем "зьмясьціць Ярылаў крыж на шчыце гербу «Пагоні»".

Спынімся на артыкуле Эдварда Зайкоўскага "Сакральныя вытокі герба «Пагоня»" (часапіс «Мастацтва Беларусі», Менск, 1990, № 10; перадрук: зборнік "«Пагоня» ў сэрцы тваім і маім". Мн., 1995), у якім гаворыцца наступнае: «Як вядома, крыж на шчыце «Пагоня» мае дзве папярэчкі аднолькавай даўжыні... такі крыж прынята называць Ярылавым... Знаходкі апошніх дзесяцігоддзяў падмацоўваюць гэтае сцверджанне, прычым сведчаць, што такі крыж звычайна звязаны з беларускай этнічнай тэрыторыяй... У прыватнасці, выява Ярылавага крыжа знойдзена аўтарам на адным з надмагільных камянёў сярэднявечнага могільніка ля вёскі Жукавічы Свіслацкага раёна... Крыжы з паралельнымі папярэчкамі аднолькавай даўжыні выяўлены пры раскопках жаночнага пахаваньня ў паселішчы Сарай Швянчонскага раёна Літвы... О. Кунцэнэ датуе XIII—XIV стст. ... На свінцовай пломбе або пячатцы драгічынскага тыпу, якая адшукана ў Віцебску, з аднаго боку ёсць выява святога (магчыма, Барыса ці Глеба), а з другога — Ярылаў крыж... Свінцовая пломба з Ярылавым крыжам трапілася ў старажытнабеларускім гарадзе Дарагічыне–Надбужскім» (цытата паводле зборніка "«Пагоня» ў сэрцы...", с. 89—91). Як бачым, аўтар лічыць крыжом Ярылы толькі крыж зь дзьвюма папярэчкамі роўнай даўжыні. Выснову Э. Зайкоўскага праверым манэтамі Вугоршчыны, на якіх сустракаецца крыж такога-ж кшталту (нумарацыя манэтаў падаецца паводле: Dr. Ladislaus Rethy. *Corpus Nummorum Hungariae*. Graz, Akademische Druck, 1958).

Першыя вугорскія манэты з роўнаканцовым крыжам, які ў нумізматыцы называецца грэцкім, пачаў біць кароль Штэфан. Наступныя каралі Вугоршчыны працягваюць біцьцё манэтаў з грэцкім крыжам. У 1173 г. каралём стаў Бэла III, і тып манэт мяняецца: месца грэцкага крыжа займае патрыяршы, у якога верхняя папярэчка карацейшая ад ніжнай (№ 112).

Каб зразумець прычыну біцьця манэтаў з патрыяршым крыжам, зробім невялікі экскурс у гісторыю Вугоршчыны. Маці бізантыйскага імпэратара Мануіла, Пірошка, была дачкою вугорскага караля Ладзіслава (1077—1095). У 1104 г. яе выдалі замуж за Іаана Комнена, сына імпэратара Алексія. Паколькі хрысьціянства ўжо падзялілася на каталіцтва й праваслаўе, Пірошка прыняла праваслаўе зь імем Ірына. У 1118 г. яе муж Іаан стаў імпэратарам і Ірына атрымала імпэратарскую дыядэму — стала імпэратрыцаю. Сын Ірыны Мануіл у 1143 г. становіцца імпэратарам. Прайшло амаль 20 гадоў, а ў Мануіла так і не нарадзіўся сын. Тады ён задумаў прапанаваць каралю Гезу II прысылаць сына ў Канстантынопаль на выхаваньне, каб праз яго аб'яднаць Бізантыю з Вугоршчынаю. У 1163 г. Бэла прыехаў у Канстантынопаль і перайшоў з каталіцтва ў праваслаўе, атрымаўшы імя Алексія. Мануіл абручыў сваю дачку Марыю з Бэлам-Алексіем. Гэтак Бэла атрымаў тытул дэспата, а таксама права карыстацца пячаткаю з патрыяршым крыжам. Бэла-Алексій быў шчасьлівы, спадзяючыся ў будучыні стаць імпэратарам. Аднак у 1169 г. у Мануіла нарадзіўся сын — спадкаемец імпэратарскага пасаду. Мануіл за парадаю бізантыйскіх вяльможаў скасаваў заручэньне Марыі з Бэлам, пазбавіў Бэлу тытулу дэспата, але пакінуў яму права карыстацца імпэратарскім патрыяршым крыжам. Бэла вярнуўся ў Вугоршчыну і, стаўшы з дапамогай Мануіла ў 1173 г. каралём Бэлам III, пачаў біць манэты з патрыяршым крыжам.

Наступныя каралі Вугоршчыны працягвалі біць манэты з патрыяршым крыжам, але ёсьць манэты, на якіх крыж мае дзьве папярэчкі роўнай даўжыні.

Прыведзеныя прыклады сьведчаць, што выснова Э. Зайкоўскага не пацьвярджаецца нумізматычнай крыніцай адносна крыжа з папярэчкамі аднолькавай даўжыні, што такая форма крыжа сустракаецца толькі на беларускай этнічнай тэрыторыі. Вугорскія каралі, пачынаючы з Андрэя II, білі манэты з крыжам, што мае папярэчкі аднолькавай даўжыні, бо такі крыж лічыўся патрыяршым.

Паколькі Бізантыя ўзаконіла права імпэратараў на карыстаньне патрыяршым крыжам і Бэла атрымаў гэтае права ад імпэратара Мануіла, то ўзнікае пытаньне адносна крыжа, які зрабіла узнікае Еўфрасіньня Полацкая: ці яна самавольна зрабіла крыж, ці атрымала дазвол ад імпэратара Мануіла?

Ведама, што Еўфрасіньня Полацкая двойчы пасылала пасольствы ў Канстантынопаль. Праўдападобна, што першае пасольства мела даручэньне прасіць патрыярха ўзяць ейны манастыр у апеку як стаўрапігійны — падпарадкаваны непасрэдна патрыярху. Думаем, што ейная просьба была пазытыўна палагоджаная, бо патрыярх багаславіў Еўфрасіньню, перасылаючы ікону Багародзіцы. Еўфрасіньня пасьля гэтага накіравала другое пасольства ў Канстантынопаль, гэтым разам — каб атрымаць права на выкарыстаньне патрыяршага крыжа. Выглядае, што гэтая просьба таксама мела посьпех. Пасольства прывезла частачку Гасподняга Крыжа і парэшткі (мошчы) сьвятых.

Пасьля гэтага крыж зь дзьвюма паралельнымі папярэчкамі пачаў распаўсюджвацца на беларускай тэрыторыі, каб пазьней стаць родавым гербам Ягайлавічаў і гербам Вялікага Княства Літоўскага.

**Міхась Белямук**

# МАНА ЗРОБІЦЦА ПРАЎДАЙ, ЯК МАНУ НЕ АСУДЗІШ

У сваім лісьце да сьвятароў Менскай епархіі мітрапаліт менскі й слуцкі Філарэт з «пастырскай дбайнасьцю» папярэджвае, што на тэрыторыі Беларускага Экзархату Маскоўскага Патрыярхату ў апошнія часы пачалі аб'яўляцца актывы. Па прыходах рассылаюцца загранічныя выданьні, каб быццам стурбаваць жыцьцё Сьвятой Беларускай Праваслаўнай Царквы. Уладыка Філарэт агледзеўся, што беларусы ў замежжы мецьмуць уплыў на праваслаўных беларусаў на Беларусі й могуць адрадзіць згубленую Беларускую Аўтакефалію.

Ужо больш за 50 год Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква існуе за межамі Беларусі, бо ў самой Беларусі беларускае праваслаўе было зьнішчанае савецкаю ўладаю. Ні Філарэт, ні Масква ня маюць правоў на Беларускую Аўтакефальную Царкву, дык таму і кідае Філарэт камяні ў беларускіх уладыкаў замежжа: быццам у замежжы беларускія прыходы — некананічныя.

Як вядома з гісторыі, кіеўскага мітрапаліта расейцы забралі ў Маскву, а ў 1582 г. зрабілі сабе патрыярха. Ці гэта кананічна?

Далей. У 1721 г. цар Пётр І зьняў патрыярха й замяніў яго Сынодам, а пазьней наагул прысабечыў права кіраваць расейскай праваслаўнай царквою. І гэта кананічна?

Ці напраўду расейскі цар быў годны такога становішча? Ці проста ніводзін з тагачасных япіскапаў ня быў годны кіраваць царквою?

Потым у 1917 г. цара скінулі й зноў паставілі патрыярха. Уся расейская царква падпарадкавалася атэістычнай уладзе камуністаў ды энкавэдыстаў. Мабыць, і гэта кананічна?

Ніхто ня верыць, што маскоўскія патрыярхі выконвалі хрысьціянскі абавязак. Але аб гэтым уладыка Філарэт не ўспамінае.

Румынская царква стала аўтакефальнаю ў 1821 г., чаго канстантынопальскі патрыярх не прызнаваў 17 гадоў. У 1860 г. баўгарская царква абвесьціла сябе аўтакефальнаю. Канстантынопальскі патрыярх назваў гэты ўчынак герэтычным.

Беларуская Аўтакефальная Царква ідзе вельмі пакутлівым шляхам, і ўсе беды спараджаюцца Масквою. Як вядома, маскоўскі патрыярх некананічна далучыў да сябе беларускую царкву.

Усе народы імкнуцца мець сваё рэлігійнае жыцьцё. Мы, беларусы, не складаем выключэньня. Нават такая малая краіна, як Эстонія, у якой да таго-ж праваслаўныя складаюць меншасьць, таксама мае аўтакефалію. Чаму-ж мы, беларусы, ня можам мець?!

Беларусы хочуць мець лучнасьць з канстантынопальскім патрыярхам, тады царква ня траціць свае народнасьці, свае апрычонасьці, свае мовы, свайго самастойнага царкоўнага жыцьця. Інакш усё русыфікуецца, усё робіцца на расейскі спосаб! У такіх умовах само слова *orthodox* страчвае сваё значэньне. Гэта ўжо не Праваслаўная Царква (Orthodox Church), а Расейскай Царква (Russian Church)! Выходзіць, усё, што праваслаўныя беларусы мелі й будавалі, — расейцы называюць расейскім?!!

Мне, беларусу, усё расейскае ня ёсьць родным, мілагучным, шчырым. Яно ня грэе. Беларусы хочуць мець сваё, беларускае, але расейскія шавіністы ды нацысты стаяць на перашкодзе.

Кожная царква мае права на існаваньне, якое-б канфэсіі яна ні была. Таксама й кожны беларус мае права належаць да той ці іншае царквы й будзе мець ратунак на вечнасьць без маскоўскага патрыярха. Ключ да раю не ў руках уладыкі Філарэта, а ў руках сапраўднага хрысьціяніна, які шчыра, глыбака верыць у Бога. Калі беларус-вернік будзе ўзносіць малітвы да Госпада на зразумелай роднай мове, малітва будзе больш вартасная, як маліцца на незразумелай чужой мове, — гэтак вучыць нас Апостал Павал.

Філарэт стараецца «ачградзіць» беларусаў ад беларускае царквы. Ня трэба нам «ограды»-загародкі, бо ў загародцы трымаюць быдла, зьвяроў, а чалавеку Бог даў волю.

**Кастусь Верабей**

# ІНТЭРВІЮ

З пагаршэньнем грамадзкае атмасфэры ў Беларусі ўсё больш і больш нашых суродзічаў шукаюць чалавечых умоваў жыцьця па-за межамі Бацькаўшчыны — у краінах Вольнага сьвету. Па некаторых зьвестках, зараз у ЗША знаходзіцца каля 5 тысячаў новых эмігрантаў беларускага паходжаньня. Сёньня «Беларус» гутарыць з маладой парай — Вольгай і Сяргеем Шабунямі, якія нядаўна адзначылі паўгодзьдзе свайго побыту ў Амэрыцы.



## «ЁСЬЦЬ ДЗЕ ПРЫКЛАСЬЦІ СВАЕ СІЛЫ»

***«Беларус».* Сяргей, Вольга! Задамо, як думаецца, самае натуральнае пытаньне: што вас падштурхнула да рашэньня прыехаць у ЗША? Як вы трапілі сюды?**

*Сяргей.* Мы ўзялі ўдзел у лятарэі грын-картаў. Дазналіся мы пра такую лятартэю ў часе знаходжаньня ў Нямеччыне.

***«Б».* А што вы рабілі ў Нямеччыне?**

*С.* Там жыве адзін мой знаёмы, зь якім я меў фінансавы інтарэс. Ён жыве ў горадзе Марбургу (зямля Гэсэн), дзе знаходзіцца досыць вядомы ўнівэрсытэт. Я легальна ўладкаваўся на часовую працу й скарыстаў вольны час, каб азнаёміцца зь Нямеччынай.

*Вольга.* Вярнуўшыся ў Менск, мы паасобку даслалі заяўкі на ўдзел у лятарэі і... выйгралі!

*С.* Мы ніяк не спадзяваліся на такі вынік, бо слалі заяўкі без асаблівай надзеі.

***«Б».* Значыцца, ніякіх сур'ёзных плянаў з гэтай лятарэяй вы пачаткова ня зьвязвалі?**

*С.* Я меркаваў, што сур'ёзную справу, ад якой залежыць лёс чалавека, лятарэяй не назавуць... Выканаўшы ўсе патрабаваньні, зьвязаныя з афармленьнем дакумэнтаў, мы былі запрошаныя ў амбасаду ЗША ў Варшаве, бо амэрыканская амбасада ў Менску пытаньнямі іміграцыі не займаецца. Заплаціўшы за афармленьне дакумэнтаў (дзьве іміграцыйныя візы па $30 і за разгляд справы $365), мы атрымалі права прыбыць у Амэрыку...

*В.* 14 ліпеня 1997 году — на дзень Незалежнасьці — мы прыляцелі ў Нью Ёрк.

***«Б».* Ці думаеце вы застацца тут назаўсёды?**

*С.* За паўгода знаходжаньня ў Амэрыцы мы яшчэ не атрымалі самой грын-краты, у INS нам адказваюць, што працэс затрымліваецца толькі з тэхнічнае прычыны, што зашмат людзей чакаюць карты і гэтыя карты проста не пасьпяваюць друкаваць.

***«Б».* Як нам вядома, грын-картаў чакаюць 1 мільён 700 тысяч імігрантаў.**

*С.* Такое становішча нас вельмі абмяжоўвае. Мы маем паперы, якія нам даюць усе тыя правы, якія маюць асобы з грын-картаю.

*В.* Аднак амаль ніхто не бярэ гэтых дакумэнтаў пад увагу, і ад нас усюды — пры ўладкаваньні на працу ці на вучобу — патрабуюць грын-карту, а безь яе ня хочуць размаўляць.

*С.* А неяк афіцэр паліцыі, паглядзеўшы мае дакумэнты, заявіў: "У вас віза скончылася 4 ліпеня..." Менавіта 4 *ліпеня я толькі прыляцеў у Злучаныя Шта*ты.

***«Б».* Якія першыя ўражаньні?**

*С.* Іншы тэмп жыцьця. Цікава. Ёсьць дзе прыкласьці свае сілы з добрым вынікам для сябе.

***«Б».* А ў Беларусі гэта было немагчыма?**

*В.* З таго дня, як нам далі дыплёмы, мы сталі беспрацоўнымі. Разам зь Сяргеем мы вучыліся ў Менскім Тэхнікуме Гандлю на аддзяленьні правазнаўства.

***«Б».* І на якую працу ў Беларусі вы маглі разьлічваць са сваёй кваліфікацыяй?**

*В.* Юрыдычны кансультант. Калі мы яшчэ паступалі ў тэхнікум, то была надзея, што будучая прафэсія дасьць нам магчымасьць заняць годнае месца ў грамадзтве.

*С.* Вольга скончыла тэхнікум на «выдатна», у мяне ў дыплёме толькі «добра» й «выдатна». Таму мы ня думалі, што нас, як толькі адвучымся, выкінуць на вуліцу.

***«Б».* А ці вы спрабавалі самастойна знайсьці працу?**

*В.* Дзе мы толькі ні былі!.. Нават здарыўся такі выпадак. У Бюро працаўладкаваньня мне далі накіраваньне ў аддзел кадраў Опэрнага Тэатру. Уявіце мой стан, калі я прыйшла туды й пабачыла ўжо двух чалавек, якія прыйшлі ўладкоўвацца на працу з такімі-ж накіраваньнямі, як у мяне! І адным з гэтых людзей быў мой муж!!

*С.* Так-так, тры накіраваньні на адно месца.

***«Б».* І які быў вынік?**

*В.* Ніякі. Нам сказалі, што вакансіі няма...

*С.* Ва ўсіх аддзелах кадраў, юрыдычных службах сядзяць адстаўнікі — былыя савецкія вайскоўцы-пэнсіянэры, звычайна расейцы. Яны зубамі трымаюцца за свае месцы. У савецкія часы Менск быў для іх як мёдам намазаны. Пасьля звальненьня ў запас кожны толькі й марыў, каб трапіць у Менск. Я даведаўся пра гэта яшчэ ў войску, калі афіцэры-расейцы, сярод якіх былі масквічы і ленінградцы, зайздросьцілі мне, калі даведваліся, што я зь Менску.

***«Б».* І чым скончыліся вашы пошукі працы?**

*В.* Мы так і не змаглі ўладкавацца па спэцыяльнасьці і з 1992 году аж да прыезду сюды займаліся гандлёвым бізнэсам, езьдзілі ў Польшчу, Нямеччыну — спрабавалі неяк зарабляць на жыцьцё.

***«Б».* Раскажыце пра свае карані.**

*С.* Абое мы нарадзіліся ў Менску. Мае бацькі паходзяць зь Меншчыны: маці зь мястэчка Крупіца, што пад Менскам, а бацька зь Бярэзінскага раёну.

*В.* У мяне бацька з Мар'інай Горкі, а мама ў мяне з заходняй Беларусі. Цікава, што ў мяне маці каталічка, а бацька праваслаўны, у Сяргея-ж маці праваслаўная, а бацька каталік.

***«Б».* Вы тут ужо сталі сьведамымі беларусамі ці яшчэ ў Менску былі моманты, якія вас усьведамілі?**

---

*Гэты артыкул быў напісаны траціну стагодзьдзя таму — у 1965 годзе, у часе, калі яшчэ праціўвалася рэпатрыяцыя беларусаў з Паўднёвай Амэрыкі ў БССР. Відаць, шмат што зьмянілася з таго часу. Але нам неабыякавы лёс нашых суродзічаў, дзе-б і калі-б яны ні апынуліся. Рэдакцыя будзе вельмі ўдзячная, калі атрымае хоць якія зьвесткі пра беларусаў у гэтым рэгіёне.*

# ПАД ПЯКУЧЫМ СОНЦАМ
## БЕЛАРУСЫ Ў ПАРАГВАІ

**Краіна.** Праўду кажучы, Парагвай — краіна адсталая, апроч таго парадкі тут ня былі такія добрыя, як у Аргентыне ці ў Паўночнай Амэрыцы. Таму новая эміграцыя пераяжджала ў Аргентыну або ў Паўночную Амэрыку. Аднак я ня чуў, каб хто зь іх паехаў у Польшчу або да Саветаў.

Прамысловасьці Парагвай ня мае нават па апрацоўцы ўласных прадуктаў. Колькі людзі зарабляюць на гаспадарках — залежыць ад самога гаспадара й ягонае гаспадаркі.

**Месцы расьсяленьня.** Беларусы жывуць па ўсёй краіне. Аднак найбольш — на поўдні й у цэнтры, у такіх мясьцінах, як Carmen del Parana, Asunsion, ля мяжы з Аргентынаю ў правінцыі Missiones і Corrientes. Амаль усе яны прыехалі сюды ў міжваенным часе з Заходняе Беларусі. Беларусы, што прыехалі пасьля Другой сусьветнай вайны (з польскае арміі, уласаўцы і DP), надоўга тут не затрымаліся — пераехалі ў іншыя краіны.

**Колькасьць.** У Парагваі жыве каля тысячы беларускіх сем'яў. У краіне, як і ў Аргентыне, статыстычнага ўліку нацыянальнага складу не вядзецца. Найгорш, што паабменьвалі старыя пашпарты на савецкія, таму ўсе беларусы, украінцы, палякі, летувісы трапілі ў «расейцы».

**Рэлігія.** Сярод беларусаў найбольш праваслаўных і пратэстантаў, менш каталікоў. У большых мястэчках праваслаўныя маюць свае цэрквы, сваіх сьвятароў, але большасьць беларусаў скамунізаваная й у цэрквы ня ходзяць.

Эвангелісты й баптысты выяжджалі й выяжджаюць у Злучаныя Штаты Амэрыкі. Хоць яны й памянялі пашпарты на савецкія, але ехаць у Саветы не насьмельваюцца.

Каталікі фармальна далучыліся да парагвайскіх парафіяў, бо тут практыкуецца той самы лацінскі абрад, аднак што да набожнасьці, то таксама, як праваслаўныя, — нічуць ня лепшыя. Некаторыя выехалі ў Польшчу.

**Суседзі.** Пераважнае насельніцтва тут — мясцовыя гуарані (guarani), індзейскае племя, якое першым асымілявалі канкістадоры й якое пазьней ваявала на баку Балівара. Яны ня любяць працаваць на зямлі — ідуць у заробкі да нашых. Ёсьць гаспадары розных нацыяў. Найбольш зарганізавана выступаюць украінцы.

**Эміграцыя.** Да 1950 году было прыблізна 1800 беларускіх сем'яў. Каля паловы перабраліся ў Аргентыну як «рускія», каб хутчэй выехаць у Казахстан, меншая частка — у Беларусь. Савецкія прадстаўнікі ў Монтэвідэо (Уругвай) і Буэнас Айрэсе (Аргентына) страшылі: калі не памяняеце пашпартоў на савецкія, то ня будзеце мець савецкага грамадзянства, якое дае права павароту «на родину».

Няспынна ўзмацнялася савецкая прапаганда: «Савецкі Саюз — найлепшая краіна на сьвеце». Гэтак задурылі людзям галовы, што бацькі ня пускалі дзяцей у школу, мяркуючы, што ў Саветах лепшая школа, лепшая тэхніка й што толькі там дзеці змогуць быць людзьмі.

Я ня чуў, каб хто, выехаўшы з Парагваю ў Саветы, вярнуўся назад у Парагвай. Відаць, парагвайскія ўлады пра іх не клапоцяцца. Аднак некаторыя з тых, хто выехаў праз Аргентыну й меў аргентынскія дакумэнты, — вярнуліся, а некаторыя ня страчваюць надзеі вярнуцца.

**Зямля.** Парагвайскія беларусы амаль усе працуюць на ўласных гаспадарках (*campos*), маюць уласнае зямлі 15—50 гэктараў. Сеюць кукурузу, пшаніцу, садзяць бульбу — салодкія гатункі, як *mandioca*, *papas*, *patatas*, прызначаныя для гарачага клімату.

Гародніну — салату, кавуны, памідоры, часнок, фасолю, цыбулю — упраўляюць толькі на свае патрэбы. Гуркі, буракі, капусту, моркву садзяць рэдка, бо не ўдаецца.

У садох пладоў маюць досыць увесь год, бо адныя канчаюцца — другія падсьпяваюць. Дрэвы садзяць трапічныя: вінаград, бананы, апэльсыны, грэйпфруты, лімоны. Яблыняў і грушаў мала.

Садзяць тэхнічныя культуры — бавоўну й какосавыя пальмы, з какосавага алею робяць найлепшае мыла. Праўда, нашыя з какосамі ня ладзяць,

*С.* З маленства езьдзіў на матчыну радзіму, дзе размаўлялі па-беларуску. Гісторыяй Беларусі я зацікавіўся ў 1993 г. у Марбургу, пасьля сустрэчы зь нямецкім прафэсарам гісторыі. Ён мне расказаў столькі цікавага пра гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. А беларусам я пачуўся ў войску. Служыў я ў 1987--89 гадох у пагранічных войсках у Туркмэніі. У нашай «часьці» большасьць была беларусы, таму было моцнае беларускае зямляцтва. Шмат служыла ўкраінцаў. Афіцэры-расейцы да нас, беларусаў і ўкраінцаў, інакш не зьвярталіся як толькі «бульбаш» ды «хахол». Гэта закранала нас. І як толькі ў восень 1988 году мы зь лістоў даведаліся пра дэманстрацыі ў Менску, то на наступны-ж дзень пачалі на шапкі нашываць бел-чырвона-белыя сьцяжкі. Украінцы, паглядзеўшы на нас, панашывалі жоўта-блакітныя, татары — зялёныя. Адныя расейцы нічога не нашывалі...

***«Б».* І што, гэта ня выклікала рэакцыі ў вайсковага начальства?**

*С.* Спачатку яны разгубіліся, бо ня ведалі, што гэта за сьцяжкі, а пазьней разабраліся, у чым рэч, і асобы аддзел забараніў нашываць сьцяжкі. Пачынаючы з таго выпадку са сьцяжкамі мы, салдаты-беларусы, ужо пачалі між сабою размаўляць па-беларуску, што вельмі злавала расейцаў.

*В.* У дзяцінстве, як бывала ў бабкі на Валожыншчыне — а там, у заходняй Беларусі, мова яшчэ жыве — то чула мову і навучылася там размаўляць па-беларуску. У 1990–91 гадох надышлі зьмены, стала больш інфармацыі. Тады і зацікавілася я гісторыяй, традыцыямі. У нас ёсьць сябры-аднадумцы. І мы зь імі зьбіраліся, дзяліліся думкамі, расказвалі хто што новае даведваўся, слухалі беларускую музыку й незаўважна самі пераходзілі на беларускую мову.

***«Б».* Як вы знайшлі суайчыньнікаў у Нью Ёрку?**

*С.* Пасьля таго, як мы атрымалі грын-карту, нехта з нашых знаёмых сказаў, што існуе Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», дзе ёсьць інфармацыя пра беларусаў у ЗША.

*В.* У «Бацькаўшчыне» нас сустрэла Ганна Сурмач. Яна дала нам адрас Фундацыі імя П. Крэчэўскага й тэлефон сп. Шукелойця.

*С.* Мы затэлефанавалі да яго. Ён сказаў, каб мы не турбаваліся, што ён нас сустрэне.

***«Б».* А чаму вы зьвярнуліся да арганізацыі, а не пачалі шукаць нейкіх зьвестак па знаёмых?**

*С.* Калі мы туды прыйшлі і пабачылі наўкола беларускую сымболіку, пачулі беларускую мову, то зразумелі, што трапілі, куды трэба.

***«Б».* Ці чулі вы яшчэ на Беларусі што-колечы пра беларускія арганізацыі ў Амэрыцы?**

*С.* Так, пра клíўлендзкі «Полацак». Мы маем некалькі нумароў часапісу «Полацак». Па тэлевізары сачылі за інфармацыяй пра Першы Зьезд Беларусаў Сьвету. Потым трапілася нам кніга «Беларусы Амэрыкі» Пранчака.

*В.* Хоць калі мы ўжо прыехалі сюды, нам давялося чуць нямала крытыкі ў адрас гэтай кнігі.

***«Б».* Дзе вы зараз жывяце?**

*С.* У Нью Джэрзі. Паміж Нью Аркам і Саўт Оранджам. Там жыве шмат украінцаў. Што цікава: большасьць зь іх нарадзілася ў Амэрыцы, аднак нават сярод эмігрантаў-украінцаў у трэцім пакаленьні мова жыве, чаго ня скажаш пра беларусаў.

***«Б».* Дзякуем за гутарку. Зычым, каб вашыя пакуты з грын-картаю як найхутчэй разьвязаліся, і спадзяемся на ваш чынны ўдзел у жыцьці беларускай эміграцыі.**

**Гаворку вялі Ілона Урбановіч і Зьміцер Саўка.**

*Здымак Віктара Камінскага.*

# НАВІНКІ ІНТЭРНЭТУ

Газэта «Наша Ніва», працягваючы ўдасканальваць сваю старонку (у прыватнасьці, зьявілася «Кніга водгукаў»), зьмяніла адрэсу: **http://members.xoom.com/Nasa_Niva/**.

Папоўнілася «Беларуская палічка» (**http://www.wu-wien.ac.at/groups/belarus/**) новай кнігаю — Кроніка Менскай Вясны–96 (паводле: «Менская вясна 1996»). Таксама можна пачаць чытаць працу Ўл. Арлова й Г. Сагановіча «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі».

Варта адзначыць зьяўленьне першай тэатральнай старонкі — Менскага Драматычнага Тэатру «Дзе Я?» Пакуль што там інфармацыя толькі пра свой тэатар, уласныя пастаноўкі (п'есы Ф. Аляхновіча), зьмешчаны здымкі са спэктакляў, але ягоны кіраўнік М. Трухан зьбіраецца разьвіваць і надалей тэму беларускага тэатру на Інтэрнэце. Адрас старонкі **hppt://www.geocities.com/ Broadway/ Alley/ 3393/English.html**. А мова — ангельская ды расейская.

Зьявілася яшчэ адна старонка, што можа ў будучым стацца крыніцай інфармацыі — **Belarus now**. Вось якая прыйшла адтуль інфармацыя. Аналітычны цэнтар «Белорусской газеты», незалежнага тыднёвіка зь Менску, прэзэнтуе электронную вэрсію інфармацыйна-аналітычнага тыднёвіка «Беларусь сёньня: Палітыка. Эканоміка. Фінансы». Першы нумар газэты, зьмешчаны на старонцы, складаецца з матар'ялаў апошняга ў 1997 годзе нумару «Белорусской газеты» й прысьвечаны, галоўным чынам, вынікам мінулага году. З 5 сакавіка «Беларусь сёньня» зьяўляецца на Інтэрнэце штотыдзень. Адрас газэты на WWW: **http://www.open. by/belarusnow/**. Аўтары старонкі маюць намер зьмяшчаць тут агляды, аналітычныя артыкулы, інтэрвію, апытаньні, навіны й камэнтары да іх аб'ёмам каля 150 кампутарных старонак (600.000 байтаў) на месяц. Ёсьць на старонцы й электронны ды паштовы адрасы рэдакцыі газэты.

Адзіная англамоўная газэта ў Беларусі *Minsk News* пачала выходзіць на Інтэрнэце раз на тыдзень. Каб не залежаць ад беларускіх дзяржаўных арганізацыяў, старонка робіцца ў ЗША (**http://www.minsk news.com**). Рэдакцыя таксама мае намер штотыдзень зьмяшчаць на Інтэрнэце "Eight Days a Week", дзе будуць падавацца анонсы культурных і спартовых падзеяў у Беларусі. *Minsk News* зьяўляецца па чацьвяргох, "Eight Days a Week" — па суботах.

Новая канадыйская старонка *Coats of Arms* (**http://www.pewterplaques.com/**) ствараe калекцыю міжнародных гербаў. Але гэта ня толькі малюнкі з апісаньнем у ангельскай мове й мове краіны — уладальніцы гербу. Жадаючыя могуць замовіць сабе выяву, зробленую на вельмі высокім мастацкім ды тэхнічным узроўні, і яна будзе перасланая вам з Канады. Як абяцаюць стваральнікі старонкі, магчымасьць замовіць «Пагоню» зьявіцца напрыканцы сакавіка.

---

бо на гадаваньне пальмаў трэба шмат часу. А вось бавоўнаю займацца любяць, таму й ахвотна запісваліся ў Казахстан, у бавоўнагадоўчыя калхозы. У некаторых водзяцца пчолы.

**Жывёла.** Кожны гаспадар мае ад 10 да 50 кароў. Як больш поля засеюць, то менш трымаюць жывёлы — і наадварот; таксама залежыць ад таго, што гаспадар любіць і што лепш прадаецца. Рагатае быдла пераважна заводзкае.

Хлявоў тут ня трэба — толькі вадапой ды крыху кустоў, каб цень быў ды каб абціраца ад мух. З выганам клопату няма.

Сьвіней маюць ад 12 да 60. Авечак не гадуюць. Курэй, качак ці гусей — то ня лічаць за жывёлу, але каля кожнае гаспадаркі бадзяецца каля сотні гэтых стварэньняў.

Коней шмат ня трымаюць — 3-6, бо да працы на ральлі ці да гаспадарскіх машын маюць трактары. Езьдзяць пад сядло і запрагаюць да сулькі — двуколкі, падобнай да ўзбэцкае арбы. Дарог добрых няма — адныя калдабаны.

**Жытло.** Эўрапейцы звычайна муруюць дамы з цэглы — чатыры сьцяны, столь, дах. Або з пляскатым дахам, які адначасна за столь. Аднак дом там бароніць не ад холаду, а ад гарачыні, ад сонца. Дзеля гэтага няма патрэбы разбудоўваць пакоі, дастаткова мець кухню й спачывальні. А сталовы пакой — на вольным паветры, у цяньку пад дрэвам.

Некаторыя, хто любіць, маюць тэлевізары, радыё. Аўтамабіляў маюць мала, хіба толькі той, каму трэба для інтарэсу і калі ёсьць дарога.

Мясцовыя людзі, асабліва гуарані, звычайна дамоў ня маюць, а жывуць у ранчах (*ranchos*) — буданах з адной-дзьвюма сьценкамі ад ветру ды лёгкім дахам. Тут-жа ў іх стаяць тэлевізар, радыё, электралядоўня, вэнтылятар.

**Харчаваньне.** Заўсёды: як устануць, пры працы і ў кожнай вольнай хвіліне — п'юць мату (*yerba mate*). Гэта тут як «перакур». Шмат спажываецца таўшчоў і мяса, асабліва сьвініны; да гэтага дадаецца салодкая бульба, пшанічны хлеб і віно. Найчасьцей віно напалам разбаўляюць з сэльтэрскай вадою. *Acada* (печанае на ражне мяса) палiваюць кока-коляй або вiном. Аднак асада робяць ня так часта, ня штодзень, як у Аргентыне, — зазвычай у нядзелю, калі ёсьць больш вольнага часу й ахвоты гатаваць яго. Шмат ідзе салаты з аліваю, асабліва да мяса. Пладоў таксама шмат — і колькасна, і якасна, толькі гэтага не бяруць пад увагу. Наагул, яды дастаткова.

**Мова.** Дзяржаўная мова — гішпанская (*castellano*). Да нядаўняга часу была другая, дадаткова — мова гуарані.

Беларуская мова тут захавалася найлепей з усяе Лацінскай Амэрыкі. Моладзь больш паслугоўваецца роднаю мовай, чым гішпанскаю ці гуарані.

**Асьвета.** Нажаль, з адукацый дрэнна, у чым ёсьць віна й савецкае прапаганды. У сельскіх акругах існуюць пачатковыя школы — да 4—5 клясаў, а па мястэчках — да 6—7 клясаў. Каб выслаць у мястэчка дзяцей на навуку, трэба мець дом у мястэчку, каб лічыцца жыхаром гэтага мястэчка.

Некаторым удаецца ўзьбіцца на грошы й даць адукацыю дзецям. Прыкладам, мой знаёмы Логвін са Стаўпецкага павету, прыехаўшы ў Парагвай перад апошняй вайною, не пайшоў шукаць куплі зямлі, а ў сталіцы на скрыжаваньні вуліц паставіў зэдлік і пачаў прымаць абутак на рэпарацыю, хоць ніколі ня быў шаўцом. З гэтага ён дарабіўся да вялікай унівэрсальнай крамы. Чалавек меў дзьве клясы расейскае школы. А сваіх дзяцей вывучыў на ўнівэрсытэце ў Asunsion на мэдыка й дантыстку.

**Звычаі.** Ясна, што беларусы прынесьлі менш сваіх, чым засвоілі парагвайскіх. Моладзь, як усюды, любіць весяліцца — ладзяць вечарыны зь мясцовымі гаўчамі ці гуарані. Музыкі — свае, бываюць гуарані або інкі; маюць струнныя інструмэнты, дудкі ды барабаны (tambor). Дудкі з трысьнягу вельмі падобныя да стрэлак — дудак з сасны, якія рабілі ў нас пастухі.

Танцы адрозныя, але мэлёдыі прыемныя, мілагучныя. Крыху выглядае прымітыўна, але людзі чуюцца добра, бо сам сабе пан.

Гаспадаркі нашых сялянаў самадастатковыя. Любяць мець усё сваё, каб нічога ня купляць у краме. Ніхто да іх не чапляецца й яны ні да кога. Зь мясцовым жыхарствам жывуць у добрай згодзе.

Старэйшыя людзі сумавалі па бацькаўшчыне, але калі пачалі прыходзіць лісты з Савецкага Саюзу, то адпала ахвота ехаць на «родину», якая, як пісалі, «засеяна лесам», — зразумелі, што адтуль гэдак пісалі не для жарту, што «там нашая бацькаўшчына, дзе ёсьць хлеб». Зразумелі, што трэба паляпшаць уласную гаспадарку, бо тут маюць і хлеб, і да хлеба.

Асаблівым доказам паслужыла і слабасьць Савецкага Саюзу ў абароне Кубы, і беднасьць СССР — калі закуплялі збожжа ў Аргентыне. Гэтыя два факты моцна парушылі 20-гадовую прапаганду.

**Эміль Цяўлоўскі**

*У 1990 г. утварылася міжнародная гуманітарная арганізацыя «Рымскі камітэт». Яе ініцыятарамі сталі акадэмічныя арганізацыі Польшчы, Украіны, Летувы, Беларусі, а таксама інстытуцыі адпаведных дыяспараў. Беларускае замежжа рэпрэзэнтаваў БІНІМ. У 1993 г. «Рымскі камітэт» пачаў ажыцьцяўленьне буйнога адукацыйнага праекту — стварэньня падручнікаў па гісторыі Беларусі, Летувы, Польшчы й Украіны. У працу ўключыліся найлепшыя спэцыялісты названых краінаў.*

*Першую частку «Гісторыі Беларусі» — 300-старонкавую манаграфію «Нарысы гісторыі Беларусі ад старажытнасьці да канца XVIII ст.» — напісаў знаны беларускі гісторык Генадзь Сагановіч, аўтар «Невядомай вайны». Другую частку — гісторыю Беларусі XIX—XX стст. — напісаў Захар Шыбека.*

*Зараз у Польшчы й на Ўкраіне абедзьве часткі перакладзеныя й рыхтуюцца да выданьня. Аднак у Беларусі з усталяваньнем рэжыму Лукашэнкі выданьне новага падручніка стала немагчымым. У 1995 г. дзяржаўчае выдавецтва «Навука й тэхніка» яшчэ было ўключыла кнігі ў свой плян, але запатрабавала $35,000. Цяпер-жа пра дзяржаўны друк і мовы няма.*

*Аўтары шукалі іншых шляхоў і падалі свае працы на конкурс новых падручнікаў, зарганізаваны Беларускім Фондам Сораса. Кнігі выйгралі конкурс, атрымалі высокія ацэнкі міжнародных экспэртаў, і Фонд меўся іх выдаваць, але канфідэнцыйна паведаміў аўтарам, што ў тагачаснай палітычнай атмасфэры ня можа гэтага зрабіць і варта пачакаць лепшай сытуацыі. Аднак неўзабаве й сам Фонд перастаў існаваць.*

*Дзякуючы ўвазе Генадзя Сагановіча да нашай газэты, чытачы «Беларуса» маюць магчымасьць першымі пазнаёміцца са старонкамі новай кнігі.*

*Прапанова аўтарам менавіта гэтага ўрыўку з манаграфіі ўяўляецца нам невыпадковаю. Мы далёкія ад таго, каб бачыць істотнае падабенства ў паводзінах вялікага князя Казіміра й сёньняшняга прэзыдэнта Беларусі што да імкненьня стаць зьверхнікам суседняе краіны. Аднак паказальна тое, чым абярняліся падобныя памкненьні для нашага краю.*

**Генадзь САГАНОВІЧ**

# НА ШЛЯХУ ДА КАНСАЛІДАЦЫІ
# КНЯЖАНЬНЕ КАЗІМІРА ЯГАЙЛАВІЧА

### Першыя крокі

Стаўшы гаспадаром, Казімір і яго рэгенты на чале з Гаштаўтам мусілі нанова аб'ядноўваць дзяржаву, бо землі-вобласьці пасьля забойства Жыгімонта зноў адпалі. Жамойць прызнала вялікага князя ўжо ў 1441 г., дзякуючы прывілею, выдадзенаму ёй Казімірам. Ня стала ўпарціцца баярства Полацкай і Віцебскай земляў. А вось у Смаленску новаму манарху было нялёгка сьцьвердзіць сваю ўладу. Паўстаўшы, мяшчане выгналі прэч вялікакняскага намесьніка з прыхільнымі да яго баярамі.

У горад быў пакліканы нашчадак Рурыкавічаў Андрэй Дарагабускі, а потым — праваслаўны князь Юры Лугвенавіч з Мсьціслава, які прыняў тытул «гаспадара Смаленскага». Новы смаленскі князь пасадзіў у вязьніцу пралітоўскае баярства ды стаў зносіцца з Полацкам і Віцебскам. Маскоўскія й ноўгарадзкія летапісы сьцьвярджаюць, што ён ужо нават княжыў у гэтых гарадох.

Магчыма, Юры Лугвенавіч сапраўды мерыўся ажыцьцявіць даўні плян Андрэя Альгердавіча — адарваць ад Літвы паўночна-ўсходнія землі Княства й стварыць на абшарах Беларусі асобную дзяржаву. Пра тое, што ён меў такія намеры, сьцьвярджалі гісторыкі Л. Калянкоўскі й Р. Бэхтальд.

Але на ўтаймаваньне Смаленска прыйшло гаспадарскае войска, якое ў 1442 г. падпарадкавала горад. Юры Лугвенавіч уцёк у Ноўгарад, а Казімір Ягайлавіч зноў пасадзіў намесьнікам Андрэя Саковіча, для супакаеньня-ж смаленцаў выдаў устаўную грамату, якой пацьвердзіў правы й вольнасьці Смаленскае зямлі.

### Умацаваньне дзяржаўнае ўлады

Даволі проста вялікаму князю ўдалося замацаваць за цэнтрам і ўкраінскія землі, хоць Валыні й Кіеўшчыне давялося вярнуць статус удзельных княстваў. Унутраная палітыка Казіміра Ягайлавіча была выразна скіраваная на кансалідацыю грамадзтва й цэнтралізацыю дзяржавы. Аднак гэта дасягалася не такімі радыкальнымі мерамі, як пры Вітаўце.

Атрымаўшы ад папярэднікаў пасьля доўгай унутрыдзяржаўнай барацьбы канглямэрат самых розных земляў і ўладаньняў, Казімір ужо на пачатку свайго панаваньня заключыў пагадненьні з Псковам, Ноўгарадам і Цьверскім княствам, а потым і з Маскоўскай дзяржавай. Гэтыя дамовы, якія прызнавалі нязьменнымі межы й сфэры ўплываў Вялікага Княства ажно да вытокаў Волгі й вярхоўяў Акі, удавалася вытрымліваць на працягу ўсяго панаваньня Казіміра Ягайлавіча.

Каб умацоўваць сувязь паўднёвых і ўсходніх ускраін зь Вільняй, ён садзіў там сваіх намесьнікаў, землям-анэксам выдаваў устаўныя граматы на самакіраваньне. Кіеўскі ўдзел у 1471 г., па сьмерці князя Сямёна, быў забраны ў Алелькавічаў і ператвораны ў звычайную правінцыю (кіеўскім намесьнікам стаў Марцін Гаштаўт), а нашчадкам Альгерда па кіеўскай лініі Казімір перадаў у валоданьне Слуцак, Капыль і Клецак. Праўда, Мсьціслаўскае княства ён зноў аддаў Юрыю Лугвенавічу, калі той вярнуўся, затое Магілёў выдзеліў з удзелу й пасадзіў у ім свайго намесьніка.

Пасьля канфліктаў і барацьбы 1430-х г. пры новым гаспадары нарэшце стабілізавалася ўнутранае жыцьцё ў дзяржаве, умацавалася цэнтральная ўлада.

### Прывілей Казіміра Ягайлавіча

Асабліва важным для ўнутранай кансалідацыі грамадзтва быў агульназемскі прывілей, выдадзены Казімірам у 1447 г. Князі, паны й баяры ўсёй дзяржавы (прывілей выдаваўся падданым «Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага») незалежна ад веравызнаньня атрымалі новыя правы й свабоды. У прыватнасьці, яны былі вызваленыя ад дзякла й сярэбшчыны, набылі права вольнага выезду за мяжу, а таксама права судзіць сялянаў і мяшчанаў, якія жылі ў межах іх уладаньняў. Гэтыя выгоды прывілей гарантаваў і князям, і панам, і дробнаму баярству, аб'ядноўваючы, такім чынам, у адзін стан і нобіляў, і ніжэйшыя сацыяльныя групы.

Па значнасьці гэты Казіміраў прывілей можна параўноўваць з Кошыцкім, які атрымала польская шляхта ў 1374 г. Фактычна зь яго й бярэ пачатак парлямэнтарызм у Вялікім Княстве Літоўскім, бо для вырашэньня пытаньняў дзяржаўнага значэньня (збору фінансавых сродкаў) цяпер патрабаваўся непасрэдны ўдзел падданых, іх згода.

### На кракаўскі пасад

Што да стасункаў з Польшчай, дык самастойнае абраньне Казіміра на віленскі пасад разарвала пэрсанальную вунію з Каронай, адноўленую Жыгімонтам у 1432 г., і юрыдычна абедзьве дзяржавы Ягайлавічаў з 1440 г. зноў нічым ня былі аб'яднаныя. Але ў 1444 г. у бітве пад Варнаю загінуў бязьвестак польскі кароль Уладзіслаў, і палякі прапанавалі карону Казіміру як яго маладзейшаму брату.

Рада спачатку не дазваляла вялікаму князю ісьці на гэта. Калі-ж прапанову паўтарылі, вяльможы, пасьля доўгага абмеркаваньня прынцыпаў новага саюзу, зьмянілі сваё стаўленьне да вуніі. Яны патрабавалі, каб у акце аб'яднаньня ня значылася ні слова пра інкарпарацыю ці падпарадкаваньне: злучэньне магло быць толькі добраахвотным саюзам дзьвюх раўнапраўных дзяржаваў.

У чэрвені 1447 г. са згоды паноў-рады Казімір Ягайлавіч прыняў польскую карону. Заключаная вунія мела пэрсанальны характар: вялікі князь літоўскі адначасова зьяўляўся і каралём польскім. Хоць палякі яшчэ неаднаразова (у прыватнасьці, у 1448 і 1451 г. і пазьней) патрабавалі вярнуць прававую сілу акту Крэўскай вуніі, гэта сустракала катэгарычны супраціў з боку Вільні.

Дачыненьні паміж Каронай Польскай і Вялікім Княствам Літоўскім пагоршыліся й з прычыны тэрытарыяльных спрэчак. Яны не перарасталі ў вайну, відаць, толькі дзякуючы цьвёрдай палітыцы Казіміра, які, быццам арбітар, залагоджваў вострыя канфлікты. Прыкладам, калі ў 1452 г., па сьмерці Сьвідрыгайлы, гаспадарская рада выслала войска на чале зь пінскім князем Юрыем, Радзівілам і Юршам займаць Валынь, палякі рыхтаваліся выправіць туды сваё шляхецкае рушаньне. Магло дайсьці да вайны, каб Казімір ня здолеў супакоіць і польскіх паноў, і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага.

### Стасункі з Масквою

У зьнешняй палітыцы Казіміра адным з найбольш значных актаў было падпісаньне «вечнага міру» з Масквой у 1449 г. Пагадненьне разьмежавала сфэры ўплыву Масквы й Вільні ды надоўга стабілізавала ўзаемаадносіны паміж двума цэнтрамі аб'яднаньня ўсходнеславянскіх тэрыторый. Маскоўскі ўладар Васіль Сьляпы (унук Вітаўта) абавязаўся не мяшацца ў смаленскія справы, а Казімір — ня ўступацца за Ноўгарад, Пскоў і Ржэў. Манархі дамовіліся таксама ня прымаць князёў-перабежчыкаў.

Для Вільні дамова 1449 г. стала паваротным пунктам усходняй палітыкі. У адрозненьне ад часоў Вітаўта, цяпер яна адмаўлялася ад актыўнай ролі на сумежных усходнеславянскіх землях і прызнавала правы Масквы на іх.

Дадатковай прычынай такіх пераменаў у дачыненьнях з Масквою было рэзкае ўзрастаньне пагрозы з боку Асманскай імпэрыі. Пасьля захопу Канстантынопаля туркамі ў 1453 г. Казімір Ягайлавіч мусіў падпарадкоўваць сваю маскоўскую палітыку антытурэцкім плянам. Дзякуючы гэтаму Масква яшчэ ў 1451 г. паставіла ў залежнасьць, а ў 1485 г. канчаткова падпарадкавала Цьвер. Тады-ж была зьліквідаваная самастойнасьць Разанскага княства.

Ноўгарад, шукаючы падтрымкі ў супрацьборстве з Масквой, у 1478 г. сам прапанаваў Казіміру Ягайлавічу далучыцца да Вялікага Княства — пры ўмове захаваньня яго прававой сыстэмы й мясцовага ладу. Аднак Казімір пайшоў толькі на тое, каб намесьнікам у Ноўгарадзе быў слуцкі князь Міхаіл Алелькавіч. Не атрымаўшы падтрымкі, Ноўгарад Вялікі яшчэ ў 1471 г. пацярпеў ад маскоўскага войска, а ў 1478 г. Іван III канчаткова падначаліў рэспубліку сваёй уладзе й зьліквідаваў яе вечавыя інстытуты.

Зьнешнепалітычная пасіўнасьць Вялікага Княства была прычынай таго, што неўзабаве яно страціла свайго апошняга саюзьніка на ўсходзе — хана Ахмата. У 1480 г. ён павёў ардынскае войска на Маскву й чакаў падмогі ад

Казіміра, што адпавядала іхняй дамове аб супольных дзеяньнях, аднак абяцаныя сілы зь Вільні так і не зьявіліся. Пасьля вядомага стаяньня на Вугры татары пайшлі назад, спусташаючы па дарозе ўладаньні Казіміра Ягайлавіча: «помсьцячы за здраду». А Маскоўская дзяржава, дзякуючы такому зыходу канфлікту, канчаткова скінула зь сябе залежнасьць ад Залатой Арды.

**Спробы абраць новага гаспадара**

На пагаршэньне палітычнага становішча Вялікага Княства ў значнай ступені ўплывала пастаянная адсутнасьць манарха, што справядліва выклікала незадаволенасьць магнатаў і князёў. Стаўшы польскім каралём, Казімір Ягайлавіч займаўся пераважна польскімі справамі й у Кракаве праводзіў намнога больш часу, чым у Вільні. Напрыклад, у 1470 г. ён першы раз за 17 гадоў наведаў Полацак, Віцебск і Смаленск.

Гэта зьніжала эфэктыўнасьць цэнтральнай улады, адмоўна адбівалася на дзяржаўнай палітыцы Вялікага Княства. Паны-рада неаднаразова прасілі Казіміра, каб ён або стала знаходзіўся ў межах свайго княства, або згадзіўся на абраньне новага гаспадара.

Пытаньне аб выбары новага манарха ставілася радай двойчы — у 1456 і 1461 г. Як кандыдат на віленскі пасад у 1456 г. фігураваў Сямён Алелькавіч — праваслаўны слуцкі князь, праўнук Альгерда, якога выстаўляла палітычная эліта ня толькі беларуска-ўкраінскіх, але й уласна літоўскіх земляў. Іх партыю ўзначальвалі віленскі ваявода Ян Гаштаўт і праваслаўны князь Юры Астроскі.

У 1461 г. зноў кандыдаваў Сямён Алелькавіч. У якасьці альтэрнатыўнага варыянту гаспадара прасілі перадаць вялікакняскую ўладу аднаму са сваіх сыноў. Аднак Казімір ні на што не пагаджаўся. У 1478 г. на сойме ў Берасьці ён заявіў, што «пры сваім жыцьці нікому не даручыць кіраваньня Літвою».

**Замах**

Незадаволенасьць Казімірам Ягайлавічам і ўнутраныя супярэчнасьці выліліся ў мяцеж удзельных князёў супраць манарха.

У 1481 г. нашчадкі Альгерда слуцкі князь Міхаіл Алелькавіч і Хведар Бельскі, а таксама Іван Гальшанскі ды Іван Глінскі падрыхтавалі замах на гаспадара з мэтай ажыцьцяўленьня дзяржаўнага перавароту. Плянавалася, што Казімір IV будзе забіты ў Кобрыні, куды ён меўся прыехаць на вясельле Хведара Бельскага з Ганнай Кобрынскай. Аднак змоўнікаў своечасова выкрылі. Гальшанскага ды Алелькавіча схапілі й пакаралі сьмерцю — прылюдна адсеклі галовы на адной з плошчаў у Вільні, а Бельскі з Глінскім уцяклі ў Маскву.

Жадаючы атрымаць там дапамогу, яны абяцалі ў Маскве далучыць да маскоўскіх уладаньняў беларускія землі аж но па Бярэзіну. Праз гэта, іх выступленьне пазьней выдавалася за праяву гравітацыі беларусаў да Масквы. У сапраўднасьці-ж яно было дынастычнай змовай старой княскай арыстакратыі, пакрыўджанай ліквідацыяй удзелаў, якая лічыла сябе паўнапраўнай пераемніцай віленскага пасаду.

Мяцеж князёў ня меў ні нацыянальных, ні рэлігійных матываў, і на грамадзкі рух не абапіраўся. У кожным разе, арыентацыю тагачаснай палітычнай апазыцыі нельга лічыць праявай настрояў насельніцтва.

Нямецкі гісторык Горст Ябланоўскі, які грунтоўна дасьледаваў становішча тагачасных русінаў (беларускага ды ўкраінскага насельніцтва) у Вялікім Княстве Літоўскім, не знайшоў ні рэлігійных, ні тым больш нацыянальных матываў у фактах пераходу часткі яго эліты ў падданства маскоўскага ўладара.

## ФОТААРХІЎ



**Мікола Вярба (Сільвановіч)**

*І яшчэ адзін дзень адышоў.*
*Наплывае няведамы час.*
*Пад дыктоўку бурлівых вятроў*
*Павязуць можа заўтра і нас.*
*У нязнаную сінюю даль*
*Капітан накіруе стырно,*
*Але мы не заплачам. На'т жаль*
*Наша сэрца ня сьціснe. Усё адно.*
*Мы паплакалі шмат. Не глядзіць*
*На наш плач і ніхто і нідзе.*
*Ды ці плакаў жабрак, як гарыць?*
*У другую ён вёску ідзе.*
*І яшчэ адзін дзень адышоў.*
*Наплывае няведамы час.*
*Пад дыктоўку бурлівых вятроў*
*Павязуць можа заўтра і нас.*

26.01.1949

Здымак з *The Winnipeg Tribune* 5.12.51

# Зь ліставаньня Ларысы Геніюш

Ах, якое бывае жыцьцё часам нецікавае,
але быць шляхотнымі людзьмі й беларусамі ніхто ніколі ня зможа нам забараніць.

***(Зь ліста Ларысы Геніюш Юзэфе і Чэславу Найдзюкам ад 4 верасьня 1975 году)***

*Жыцьцё Ларысы Геніюш склалася незвычайна. Яна ня выехала на Захад у эміграцыю з Прагі (хаця мела такую магчымасьць), адбыла гады ў канцэнтрацыйных савецкіх лягерох — і адмовілася стаць грамадзянкай БССР (выпадак абсалютна незвычайны для таго часу). На сваёй зямлі пад Саветамі яна была «ні госьць, ні гаспадар».*

*З паваеннай беларускай эміграцыяй Л. Геніюш захавала трывалыя сувязі — не на адзін год. Амаль да апошніх дзён жыцьця яна ліставалася з суайчыньнікамі на чужыне. Гэта др. Вітаўт Тумаш, Юзэфа й Чэслаў Найдзюкі ў Каліфорніі (ЗША), Вера і Міхал Махначы ў Ілінойсе (ЗША), спадарства Нíканаў, Зіна і Алесь Каднякі (паэта Алесь Салавей) у Аўстраліі... Частку свайго ліставаньня яны перадалі ў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Менавіта дзякуючы ім, рэспандэнтам Ларысы Геніюш, сталася магчымай гэтая публікацыя.*

**Л. Ю.**

Жывем мы ў старой хаце мужавых продкаў. Кнігі, сувэніры, дываны й часам добрыя людзі й лісты ад дарагіх і далёкіх сяброў ды ад сына. Змухлявала-б, калі-б сказала, што жывецца лёгка. Маё мінулае, ды і сучаснае, у многім не гарманізуе, толькі я інакшай не магу быць! (3.08.1970)

Прывітаньні Вам ад восені нашай, ад бульбянішчаў, маладзенькіх лясоў, першай руні і ад нашых сэрцаў. Жывем мы добра, хата старая вельмі, але свая, стол ня пусты, хоць кішэні то часта. Жаль толькі, што мы далёка ад унукаў і адныя тут, як ваўкі... У нас тут няма сваякоў, і мы самыя, а сябры ня ўсе мяне любяць, бо я чалавек ня вельмі паслухмяны і верабей стары. Люблю, што пазытыўнае, але што не адпавядае маёй беларускай, чалавечай душы, я ніколі не пагаджуся з тым — і тут уся бяда. (20.10.1970)

Я была ў Вільні. Хавалі А. Клімовіча. Хавалі ўрачыста літоўскія ксяндзы. Вазілі яго аж у Клюшчаны на Сьвяньцяншчыну, бо ён хацеў быць пахаваным ля свае маці... З нашых малодшых ня было нікагутка... Хавалі моўчкі. Я ня была прыгатаванай, каб гаварыць, і калені неяк мне дрыжалі, але кораценька і цьвёрда ўсё-ж сказала пару словаў... Божа, я-ж ня ведала, што была там я такая адна... А ён аж да апошняга дня жыцьця думаў пра свой народ, нешта ўсё хацеў зрабіць для яго культуры, нешта рабіў... (7.12.1970)

А Вільня маладзец, будуецца на дзіва, толькі яна ўжо поўнасьцю літоўская! Іх там так многа ўжо! Схапілі гэты цудоўны горад абедзьвюма рукамі, упіліся ў яго, як кляшчы, хоць не будавалі яго, і ўсе там цяпер як чужынцы, хто ня літовец. Трэба прызнаць, што працуюць яны талкова, дружныя вельмі, разумныя для сябе... Усё наша зьліквідавалі, але ня тую праўду гістарычную, дзеля якой яны так і намагаюцца. Толькі праўды ня зьменіш... (7.12.1970).

У Палангзе, у бібліятэцы, муж папытаўся беларускіх кніжак ці журналаў. Яму нявстліва адказалі, што беларусы ад свае мовы адмаўляюцца. На што ён ім адмовіў: «Гэта нязгодна з праўдай. Мы ня толькі не адмаўляемся ад сваёй мовы, але не адмаўляемся і свае старой сталіцы...» Ён там ледзь ня біўся зь імі і казаў, што не паедзе болей туды... Доля ўсё адбірае у нашай бацькаўшчыны шчырых сыноў, увесь час, як толькі запомню. А не зрабіць нічога для свайго народу — ня варта жыць...

Трэба прывучаць дзяўчатак да хатняе працы, да клопату аб сям'і, аб эстэтычным выглядзе кватэры, адзеньня і г. д. Якая-б спэцыяльнасьць ні была ў жанчыны, але нішто так не патрэбнае, як гаспадарнасьць, мацярынства і жаночая цеплыня ў хаце. Трэба любіць і шкадаваць сваю маму, у якой столькі клопату, столькі працы. Гэта вялікая радасьць дапамагаць сваёй Маці і наагул радасьць некаму памагчы ў працы. ( 30.03.1971)

Апошні час мяне падводзіць здароўе. Воля мая чалавечая трымаецца, але здае маё сэрца. Гэта нармальна. Старасьць. (1.04.1971)

Моцна ў нашых людзях закаранілі тую «польскую» і «рускую» веру, паводле якой і пішуць нацыянальнасьць. Практыкуецца гэта і сяньня і амаль «благаслаўляецца». Гэтага несуразнага пытаньня нат' парушыць нельга. Ды ўсё роўна ў сьвятынях няма нашай мовы. Яна яшчэ па сёлах...

А моладзь сяньня кудлатая і барадатая ўсюды. Гэткія і ў нас. Калі я была ў Варшаве, дык трудна было часам адрозьніць хлапца ад

(Працяг на с. 10)

*19—20 чэрвеня 1997 г. у Менску пад эгідай UNESCO прайшла Міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Рэстытуцыя культурных каштоўнасьцяў: Праблемы вяртаньня й сумеснага выкарыстаньня (юрыдычны й маральны аспэкты)». Арганізатары канфэрэнцыі — Нацыянальны Навукова-Асьветны Цэнтар імя Скарыны (Скарынаўскі Цэнтар) і Беларускі Фонд Культуры — выдалі кнігу матар'ялаў, у якой магілёўскі дасьледнік С. Багдановіч зьмясьціў грунтоўную публікацыю, што праліваε сьвятло на лёс беларускай нацыянальнай сьвятыні — крыж Ефрасіньні.*

*У афіцыйную савецкую вэрсію пра вываз крыжа фашыстамі сёньня ўжо мала хто верыць. Аднак гэта не мінула М. Яніцкай у новым энцыкляпэдычным даведніку «Беларусь» (Мн., 1996. С. 404) паўтараць старую легенду пра немцаў.*

**Сяргей Багдановіч**

# КРЫЖ ЕФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ

## ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ ПОШУКУ

У Магілёўскім Дзяржаўным Музэі захоўвалася вялікая калекцыя гістарычных каштоўнасьцяў, якія зьяўляліся нацыянальным здабыткам нашай рэспублікі. Сярод іх — залатыя ўпрыгожаньні з раскопак Пампэі, мітра архіяпіскапа Георгія Каніскага, залатыя й сярэбраныя ключы ад горада Магілёва, сярэбраная булава Жыгімонта III, збор старарукапісных кніг, грамат, бронзавыя й сярэбраныя ўпрыгожаньні з каштоўнымі камянямі з раскопак курганоў, карціны-арыгіналы Баравікоўскага, Айвазоўскага, Рэпіна, вялікая нумізматычная калекцыя, іконы й многія іншыя прадметы мінуўшчыны.

Але галоўным гонарам Музэю быў крыж Ефрасіньні Полацкай — дзівосны твор беларускага майстра Лазара Богшы. Выкананы з дрэва гроба Гасподня, пакрыты залатымі й сярэбранымі пласьцінамі, аздоблены каштоўнымі камянямі, ён лічыўся нацыянальнай сьвятыняй беларусаў, якая на працягу многіх стагодзьдзяў аб'ядноўвала іх у суровыя гады выпрабаваньняў, радавала сваёй прыгажосьцю. І вялікі праклён вісеў над тым, хто спрабаваў завалодаць ім. Нават Іван Жахлівы ня стаў трымаць крыж у сваіх сховішчах, вярнуў палачанам. Так і прайшоў ён з намі праз бурыстагодзьдзі.

Незадоўга да вайны ўся калекцыя каштоўнасьцяў, у тым ліку й крыж, была перанесеная ў пакой-сэйф Магілёўскага абкому партыі. І вось у гарачае лета 1941 г., калі фашысцкія захопнікі стаялі пад Магілёвам, ён разам зь іншымі рэліквіямі бясьсьледна зьнік. З той пары лёс крыжа невядомы.

Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі сталі чутны нясьмелыя заявы дзяржаўных дзеячаў пра неабходнасьць вяртаньня нацыянальных здабыткаў. Нажаль, сьведкаў тых трагічных падзей становіцца ўсё менш, а сьляды скарбаў, што зьніклі, зьбіраюцца ўсё больш. Сёньня іх спрабуюць знайсьці многія грамадзкія арганізацыі. Але пакуль што безвынікова.

Уходзе пошуку было адзначана шмат вэрсій пра абставіны зьнікненьня каштоўнасьцяў. Правяралася, у прыватнасьці, пашыранае меркаваньне аб разрабаваньні каштоўнасьцяў фашыстамі ў гады акупацыі. Аналізавалася таксама спрэчная думка пра тое, што крыж не пакідаў горада Магілёва, а схаваны дзесьці ў яго падземных лябірынтах. Многа прыхільнікаў мела сьцьверджаньне аб тым, што каштоўнасьці не пасьпелі пераадолець мяжу нямецкага акружэньня й былі схаваныя недзе каля Крычава.

Не адмаўлялася вэрсія аб перадачы скарбаў у крытычны час магілёўскай абароны на захаваньне сьвятарам праваслаўнай царквы. Не заставалася па-за ўвагай і меркаваньне аб знаходжаньні крыжа ў замежных прыватных калекцыях.

Пры аналізе й распрацоўцы гэтых вэрсій ставілася наступная мэта: знайсьці якія-небудзь дакумэнты аб перамяшчэньні рэліквій, а таксама сьведкаў, якія маглі-б праліць сьвятло на далейшы лёс Магілёўскага Збору.



На жаль, пакуль што патрэбных нам дакумэнтаў, якія маглі-б выявіць сьляды рэліквій, знайсьці не ўдалося. Адмоўныя адказы на нашы запыты прыслалі й многія афіцыйныя арганізацыі Расейскай Фэдэрацыі, у іх ліку — Цэнтральны Апэратыўны Архіў ФСБ, Аб'яднаны Дзяржаўны Гістарычны Музэй г. Масквы, Цэнтральны Расейскі Банк ды іншыя.

Больш плённым быў вынік пошуку сьведкаў тых трагічных падзей. Нам удалося пагаварыць з былым дырэктарам Гісторыка-Краязнаўчага Музэю Іванам Сяргеевічам Мігуліным. Ён быў галоўным захавальнікам рэліквій, апошнім гаспадаром, ад якога крыж Ефрасіньні незразумелым чынам зьнік.

Іван Сяргеевіч падрабязна расказаў пра абставіны эвакуацыі дзяржаўнай маёмасьці ў першыя дні абароны, пра свае намаганьні прыцягнуць увагу службовых асоб да пакоя-сэйфа. Падазраваць яго ў нейкіх махінацыях з каштоўнасьцямі няма падстаў, хаця паводзіны І. Мігуліна ў тыя часы сапраўды выклікаюць сёньня многа пытаньняў. Напрыклад, замест таго, каб паклапаціцца аб вывазе скарбаў з пакоя-сэйфа, дырэктар-інвалід ідзе ў апалчэньне, а потым і зусім выяжджае ў тыл са сваёй сям'ёй.

Зразумела, што пасля вайны калегі па партыі наладзілі яму допыт: «Чаму кінуў каштоўнасьці й дэзэртыраваў у тыл?», «Куды падзеў залаты дзяржаўны фонд гістарычнага значэньня?» Адпаведная размова адбылася й з супрацоўнікам Магілёўскага УКГБ Малчанавым. Здавалася-б, пасьля такіх абвінавачаньняў можна было лёгка трапіць у які-небудзь «лаг». Але абышлося вымовай па партыйнай лініі.

Добра, што Іван Сяргеевіч, хоць і па памяці, склаў сьпіс каштоўнасьцяў, які, на нашу думку, далёка не адпавядае сапраўднай колькасьці ўсяго збору. Нажаль, і сёньня мы ня ведаем, колькі было там каштоўнасьцяў і якіх, але ня губляем надзеі знайсьці іх.

Здапамогай іншых сьведкаў удалося падвергнуць таксама сур'ёзнаму сумненьню афіцыйную вэрсію аб разрабаваньні каштоўнасьцяў фашыстамі. Сьцьверджаньне аб тым, што дзьвярныя замкі й краты сэйфа выразаліся аўтагенам, ня мае пад сабой падставы, паколькі яны былі зьнятыя ўжо ў пась-

## Зь ліставаньня Ларысы Геніюш

(Працяг з с. 9)

дзяўчыны і наадварот. Дэгенэруюцца яны нейк і духова. Але ёсьць і добрая моладзь, якая і думае і адчувае адказнасьць за заўтрашні дзень. Яны-то ўсе перабурацца з часам. Гэта амаль нармальна. Жыцьцё даволі сумнае, дык хоць вопратку прыдумаюць як атракцыю...

Часам наглядаю, што нашая народная культура этычная — вялікая культура. Упартыя мы, дык можа што зь яе і захаваем. Думаюць людзі. (2.04.1971)

Бацькі мяне вучылі праўдзе, літасьці, дабраце, гасьціннасьці, чэснасьці. А жыцьцё расшырыла гарызонты ў другім напрамку, зь якога таксама на крок ня змыляю. Сказаць, што мне трудна, — гэта слаба сказаць... адным словам, я жыву, працую каля дому, і толькі вельмі мне адзінока і бесканечна сумна...

У нас малое мястэчка, як цяпер — «городской посёлок», так што ў нас яшчэ чутно родную мову між людзьмі, якія зь сяла. З намі таксама ўсе стараюцца гутарыць па-беларуску. Іначай запануе адна мова, адна «культура»... (2.11.1971)

Працую крыху над невялікай паэмай аб Ефрасініі Полацкай. Так, як напісана, пэўна, не надрукуюць, а іначай ніяк нельга: не абмінуць уплыву вялікай ідэі, якая пакінула моцны ўплыў на гэтых усіх стагодзьдзях. (28.11.1971)

А «Песьняры» пяюць хораша! Яны захоўваюць да тонкасьці наш калярыт, і музыка ў іх на розных нашых старых інструмэнтах, ёсьць нават ліра!.. «Песьняры» кранаюць душу, беларускую душу, дык наскрозь. Яны адчуваюць песьню, многа працуюць над ёю, і мы ўсе іх вельмі любім... (21.12.1971)

У нас недзе ў 68 годзе ў Зэльве быў хор Рыгора Шырмы, але безь яго. Я пазрывала ўсе мае тульпаны для іх, але было мне балюча, калі хацела пагутарыць зь імі, і ніхто, але то ніхто зь іх ня ўмеў па-беларуску. Муж зь некім гутарыў, а мне зрабілася да сьлёз няёмка. Нечаму здавалася, што прыгожыя салісткі, якія так хораша заводзілі нашыя народныя песьні, павінны ўмець хоць прывітацца, як наш народ. Самога Рыгора Шырму я бачыла толькі ў тэлевізары, як нядаўна яго віталі з васьмідзесяцігодзьдзем. Было гэта вельмі хораша і ўрачыста. Ларыса Александроўская, Генадзь Цітовіч, Ігар Лучанок нават выступалі на роднай мове! (29.01.1972)

Паэту, мусіць, трэба, каб яго чыталі, друкавалі, крытыкавалі і падтрымлівалі. Калісьці ў маладосьці, за Польшчы, я пісала для сябе асабіста. Было сумна, дык усё перачытвала. Загінулі недзе тыя мае вершы. У мяне наагул многа чаго ў жыцьці загінула. (19.06.1973)

Хваравбліва не пераношу няяснасьці ні ў жыцьці, ні на працы. (11.03.1974)

Што да «Вершалінскага раю», дык гэта амаль дакумэнтальная аповесьць. Нажаль, такое было. Мы крыху гневаліся на Карпюка, што ён так рэалістычна вывалак на сьвет няпрыглядны такі момант нашай паднявольнай мінуўшчыны, але пасьля згадзіліся. Мова аповесьці сочная, ды і факты сякія-такія цікавыя. Аднойчы нат' адзін дзядзька папраўляў печ, і з гутаркі ўспомнілі Грыбава і таго Гальяша. Дзядзька шчыра закляў яго, бо некалі яго жонка так захапілася гэтым «прарокам», што пакінула пяцёра дзяцей і так і засталася ў Гальяша. Яшчэ ня так даўно адна бабка прыносіла мне газэтку па-расейску, якую яна хавае як рэліквію разам зь вераю ў таго Гальяша. Сам А. Карпюк са Страшылава (сяло на Беласточчыне), але мова там, як і ў нас: «наеўса, напіўса», ды і сапраўды тыя праклёны аднолькавыя. Мы ж з Вамі некалі блізкія суседзі. Гэты Гальяш вырас на паднявольнай духовай нішчымніцы беларусаў, калі нават яго «вучэньне» прымалася людзьмі як нешта сваё. Падсьведама хацелася людзям нейкай «праўды», аб'явы нейкае. Так, гэта рэальнасьць,

ляваенны час і некаторыя супрацоўнікі рэдакцыі газэты «Магілёўская праўда» (яна разьмяшчалася ў гэтым-жа будынку) бачылі іх без аніводнага пашкоджаньня. Дарэчы, краты й па сёньняшні дзень ляжаць у падвале.

Былая галоўная хавальніца музэю Ніна Філімонаўна Мясьнікова ў час акупацыі жыла насупраць былога абкаму, сустракалася зь некаторымі краязнаўцамі, якія не пасьпелі эвакуавацца. Яна ўдакладніла, што ня чула размоў пра рабаваньне каштоўнасьцяў фашыстамі. Ды й іх вываз з гораду ня мог застацца тайнай двух-трох чалавек, тым больш, калі ў так званай «апэрацыі» быццам удзельнічалі нашы суайчыньнікі.

Калі-ж дапусьціць, што адной з сумна вядомых камандаў з арганізацыі «Штаб Розэнберга» й удалося захапіць каштоўнасьці — пэўна-ж, засталіся-б сьляды гэтай «дзейнасьці» — сьпісы скарбаў. Улік немцы, трэба адзначыць, вялі скрупулёзна.

Аднак сярод трафэйных дакумэнтаў такой інфармацыі адшукаць не ўдалося. Да таго-ж, як сьведчаць архівы УКГБ, розэнбэргаўскім рабаўнікам у нашым горадзе пажывіцца асабліва ня было чым — практычна ўсё было вывезена ў час эвакуацыі. Таму ім давялося задаволіцца толькі каштоўнымі кнігамі з Магілёўскай Дзяржаўнай Бібліятэкі ды некаторай часткай гістарычнага архіву, аб чым сьведчаць дакумэнты крымінальных спраў на фашысцкіх памагатых.

У прыватнасьці, былы перакладчык аддзелу прапаганды нямецкай камэндатуры М. Я. Сташэўскі па допыце паказаў: «... У лістападзе 1943 г. гарадзкая камэндатура прызначыла мяне адказным за эвакуацыю ў г. Беласток кніг магілёўскай бібліятэкі. Было адабрана й запакавана 300 скрынь (прыблізна 40 тысячаў кніг), якія былі пагружаны ў 4 вагоны й накіраваны ў Беласток». Хутчэй за ўсё, гэта й нарадзіла чутку аб вывазе каштоўнасьцяў з пакоя-сэйфа.

Далей, не пацьвердзіла наша меркаваньне пра тое, што рэліквіі маглі быць перададзены ў банк (усё-ж золата й срэбра было там дастаткова), Вера Мартынаўна Галубец, якая да пачатку абарончых баёў за Магілёў працавала ў абласным банку ў якасьці загадчыцы асобага сэктару. Яна ажыцьцяўляла кантроль за перамяшчэньнем усіх фінансавых дакумэнтаў і грошай. Дык вось, Вера Мартынаўна сказала, што ніякія прадметы й каштоўнасьці рэлігійна-культавага прызначэньня ў той час у банк не паступалі. З апошняй машынай банкаўскіх грошай яна выехала ў горад Тамбоў.

Аднак самымі каштоўнымі для нас былі зьвесткі Пятра Харытонавіча Паддубскага, які адгукнуўся на адзін з нашых артыкулаў аб пошуку крыжа. На сустрэчы ён сьцьвярджаў, што менавіта яму дасталася пачэсная місія выратаваньня магілёўскіх скарбаў. А было гэта, па яго словах, так.

Вайна застала чырвонаармейца Паддубскага ў Магілёве, дзе ён служыў вадзіцелем. У самы гарачы момант баёў за горад яго выклікаў камэндант Ваяводзін і загадаў вывезьці нейкі каштоўны груз. Які — не сказаў. 13 ліпеня ён падагнаў да будынка абкаму машыну, у кузаў якой людзі ў цывільным пачалі загружаць клункі й мяшкі. Пятру Харытонавічу, які стаяў непадалёк ад машыны, добра запамяталася фраза аднаго зь іх: **«Які крыж прыгожы!»**

Потым груз пад ахову ўзялі супрацоўнікі НКВД на чале з маёрам. Да машыны Паддубскага далучыліся дзьве палутаркі з банкаўскімі каштоўнасьцямі. А ў кабіну да яго сеў Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка, першы сакратар ЦК КП(б)Б, пасьля чаго калёна рушыла ў дарогу.

Маршрут да Масквы быў вельмі складаны: часта бамбілі варожыя самалёты. Але груз праз два дні быў дастаўлены ў расейскую сталіцу ва Ўправу Чырвонай Арміі, будынак якога разьмяшчаўся на Ленінскіх гарах. Аб тым, што менавіта ў гэты час яны выяжджалі з горада, пацьвердзілі пазьней у сваіх успамінах Панамарэнка й Ваяводзін.

Як сьведчаць архіўныя матар'ялы, дазваляла гэта зрабіць і апэратыўная абстаноўка на фронце 13—15 ліпеня. Куды затым накіраваўся каштоўны груз, Паддубскі ня ведаў, бо вадзіцеляў гэтых машын адразу адправілі ў розныя воінскія часьці.

Такім чынам, з пэўнай доляй упэўненасьці можна сказаць, што Магілёўскі Збор у пачатку вайны знайшоў свой прытулак у Маскве. А далей? Дзе-ж усё-такі згубіліся сьляды скарбаў Магілёўскага музэю? Існуе меркаваньне спэцыялістаў, што яны «паплылі» за акіян па лэнд-лізе й з той пары крыж знаходзіцца ў калекцыі Моргана. Цэнтральнае Беларускае Бюро. Інтэрполу, куды мы зьвярнуліся па дапамогу, пакуль што станоўчага адказу не дало. З другога боку, вядома, што былы СССР так і не расплочваўся з сваімі саюзнікамі за дапамогу ў час вайны. Аднак, калі й дапусьціць, што нейкі гандаль каштоўнасьцямі адбыўся, то перад гэтым ніх абавязкова павінны былі прайсьці паўз вопытныя вочы экспэртаў. І ўжо такія рэліквіі, як крыж Ефрасіньні Полацкай ці залатыя ўпрыгожаньні з раскопак Пампэі, з-за іх вялікай гістарычнай каштоўнасьці ні ў якім выпадку ня сталі-б экспанатамі заходніх калекцый.

Нельга выключаць, што іх далейшы лёс нейкім чынам можа быць зьвязаны з запасьнікамі якога-небудзь музэю. Так, сёньня ў Берасьці завяршаецца праца над копіяй крыжа Ефрасіньні (На гэты момант праца скончаная — *Рэд.*). Калі мы пацікавіліся, адкуль узяліся нэгатывы, па якіх майстар узнаўляе твор Лазара Богшы, то даведаліся, што ў горад над Бугам іх прыслалі зь... Дзяржаўнага Эрмітажу. Цікава, як яны туды трапілі? Хто й калі фатаграфаваў крыж?

Усвой час з гэтага музэю на наш запыт засьведчылі пра чуткі аб «моргануаўскім» сьледзе рэліквіі — і больш нічога. А можа ў ваенны час рэліквіі перавезьлі далей на ўсход, у музэйныя сховішчы Уфы ці Самары, дзе знаходзіліся архівы ня толькі Магілёўскага абкаму партыі, але й іншых афіцыйных арганізацый?!

З другога боку, каштоўнасьці звозіліся ў Маскву як правіла з удзелам НКВД. У нашым выпадку, па сьведчаньні П. Паддубскага, ахова была ўзброеная аўтаматамі й пісталетамі. І гэта ў пачатку вайны, калі аўтаматная зброя была вельмі рэдкай зьявай. Значыць, там знаходзілася спэцыяльная група, магчыма, маскоўская. Адсюль вынікае, што Берыю павінны былі інфармаваць пра наш скарб. І ня выключана, што нейкія каштоўныя прадметы з Магілёўскага Збору маглі трапіць ці ў рукі самога Лаўрэнція Паўлавіча, ці кагосьці з работнікаў НКВД. Дарэчы, на карысьць апошняга меркаваньня ўскосна сьведчыць і сама загадкавасьць зьнікненьня скарбаў з Магілёва. Па-першае, ня знойдзена дакумэнтальнае пацьверджаньне вывазу каштоўнасьцяў. Па-другое, мажліва, што тое неадпаведнае пакараньне Мігуліна зьявілася своеасаблівай кампэнсацыяй за яго маўчаньне аб далейшым лёсе рэліквій.

Іншчэ. Можна зачапіцца за словы П. Паддубскага, што эвакуацыя Магілёўскага Збору пачалася вельмі позна — амаль за дзень да таго, як вакол Магілёва замкнулася кола гітлераўскага войска. Мажліва, хтосьці ў сваіх інтарэсах вырашыў выкарыстаць загад Сталіна ад 3 ліпеня 1941 г., згодна зь якім усе нявывезеныя каштоўнасьці павінны былі зьнішчацца. А з 3 да 13 ліпеня было многа часу на роздум.

Таксама пытаньне для развагі: выпадкова ці спэцыяльна ў машыну да П. Паддубскага сеў першы сакратар ЦК КП(б)Б П. Панамарэнка, які ў час налётаў варожай авіяцыі раз-пораз гаварыў Пятру Харытонавічу: «Каштоўнасьці нам патрэбна давезьці што-б там ні было»? У пачатку вайны некаторыя беларускія музэйныя рэліквіі маглі стаць часткай «золата партыі».

Словам, неабходнасьць пошуку каштоўнасьцяў з Магілёўскага Збору на тэрыторыі Расеі відавочная. І тут нас абнадзейваюць нашы калегі з расейскай спэцслужбы, якія ахвотна ўзяліся дапамагчы нам. Стала рэальным спадзяваньне, што й расейскія вучоныя не застануцца ў баку ад гэтай справы.

Непаўторнае дзіва Лазара Богшы павінна вярнуцца на сваю Радзіму. Дзеля гэтага давайце аб'яднаем і памножым нашы намаганьні ў пошуку крыжа й іншых нацыянальных здабыткаў!

---

нажаль, і ясныя яс вытокі. Народ мусіць мець сваіх прарокаў, а Купала і іншыя яшчэ тады да людзей нашых амаль не даходзілі. (25.06 1975)

Мы доўга жылі на чужыне, і заўсёды мілым было для нас разумнае, роднае слова. (20.03.1976)

Палякі нічога не забыліся і нічога не навучыліся за гэты час крывавай гісторыі. Ім здаецца, што нас наагул не павінна быць на нашых землях... Чыста «славянская» палітыка «братэрства і роўнасьці»... Лінія ўраду іншая, але ня ўсе там жывуць паводле гэтай лініі. (30.08.1976)

Чалавек толькі і жыве, пакуль працуе і бачыць вынікі сваёй працы. А век, старасьць — гэта не перашкода, каб быць сапраўдным чалавекам і пакінуць добры і трывалы сьлед на зямлі. Асабліва, калі гэты «сьлед» чалавечы так патрэбны. (27.03.1977)

Мы ведаем, як дарагая і родная кніжка сярод чужых людзей, бо самыя доўга жылі на чужыне. Часта ўспамінаюцца тыя часы, часам з жалем, часам зь любасьцю. (5.04.1977)

Наш маральны абавязак — пасылаць дарагім суродзічам роднае слова з Бацькаўшчыны. (18.07.1977)

З болем заўсёды ўспрымаем весткі аб сьмерці нашых дарагіх, харошых людзей і тут, і ў вас. Добра, што хоць ёсьць, расьце моладзь. (30.08.1977)

Мы хацелі-б, каб Ядзя ня вельмі сьпяшалася замуж і выбрала сабе якога спраўнага беларуса, бо супольныя інтарэсы і зацікаўленьні ў жыцьці — гэта палова шчасьця! Калі не, дык хоць сапраўднага дзельнага і талковага амэрыканца, каб і сваё любіў, і шанаваў чужое. (18.07.1978)

А Вам далёка ад Бацькаўшчыны хочацца паслаць хоць роднае друкаванае слова ці краявід. (11.03.1979)

Шчыры дзякуй Вам за Вашыя спачуваньні з прычыны сьмерці сьвятой памяці майго мужа. Толькі адным пішу Вам, бо боль ня сьціхае, а робіцца глыбейшым, як і маё гора і лёс зусім адзінокага чалавека, бо па сьмерці Яначкі я нікога тут, сказаць, ня маю. Людзей шмат добрых, спагадлівых, простых, нашых, з сапраўднаю яшчэ культураю нашых дзядоў, але і яны маюць свае сем'і і свае клопаты...

Галоўнае, што прыехалі дзеці і ўнукі. Усё забылася сумнае, што нясе з сабою нялёгкае жыцьцё і хвароба, і ў памяці толькі вялікая любоў, якой ня вернеш... Было многа кветак і многа людзей, бо лекар і чалавек быў ён добры. Крыху я была аслабла і раскісла, але зноў я раблюся злая, як воўк, і нікога і нічога не баюся! Нейк дам сабе рады. (30.03.1979)

Простыя нашыя людзі, суседзі і сваякі мужа часам аж узварушліва апякуюцца мною. Нават іх дзеці. Яны ведаюць, як я адна і як мне бывае цяжка. Нікога з нашай інтэлігенцыі ці даўніх нашых знаёмых за гэты час і не бачыла. Я іх разумею, ня гневаюся, але прыкра ўжо нават аб іх успамінаць. Люблю ўсё жыцьцё людзей адважных і чэсных, незалежна ад іх перакананьняў палітычных. Люблю людзей добрых. (18.09.1979)

У нас тут няма сапраўды інтэлігентных людзей. Ёсьць людзі з асьветай, як рамесьнікі, абмежаваныя толькі вузкай галіной сваёй спецыяльнасьці. Мне болей падабаюцца сардэчныя, простыя нашыя людзі, якія не пакінулі мяне ў бядзе. (8.11.1979)

Жыцьцё мае надта скамплікаванае, але я ўсё тая-ж, простая і разам складаная беларуская душа. Найбольш ненавіджу ў сьвеце хлусьні і двулічнасьці. Яшчэ ненавіджу бесчалавечнасьці. Люблю чэсных, ахвярных і адважных людзей, якіх бы перакананьняў яны ні былі. Праўда, у нашых тут адно ва ўсіх перакананьне, але бывае, што і цьвярозы розум часам загаворыць. Жыцьцё не стаіць на месцы, і касьмічная эра вымагае іншага маштабу думак і назіраньняў.

Жыць засталося мала, і галоўнае ёсьць тое, што ўжо было. Мала зроблена, але ўжо зроблена нешта на мілай ніве нашай народнай культуры. Ня ведаю, ці яшчэ давядзецца болей зрабіць. У мяне свае, правераныя нялёгкім жыцьцём вартасьці і сьвятасьці. Галоўнае ў іх, што людзі павінны быць людзьмі, ня толькі імі звацца... (8.11.1979)

